


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

30 сакавіка 2018 года №13 (1196)




## Віншуем чытачоў, якія ў гэтыя дні святкуюць Вялікдзень!

# Ці можа ў Маладзечне здарыцца кемераўская трагедыя?

Супрацоўнікі забаўляльнага цэнтра, кінатэатра і МНС распавялі, што робяць, каб пазбегнуць падобнай трагедыі ў горадзе.

На здымку – вучэбная эвакуацыя ў адным з гандлёвых цэнтраў Маладзечна.



старонка 8

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Якія дамы пабудуюць, якія здадуць у Вілейцы**



старонка 2

**"Хачу нармальнага асфальту і нізкіх бардзюраў"**



старонка 20-21

**Футбаліст Макоўскі вінаваціць журналістку ў забойстве футбола**



старонка 22


АЛМИ СЕТЬ МАГАЗИНОВ

Сеть магазинов «АЛМИ» приглашает на работу:

- ПРОДАВЦА — г. Молодечно, ул. Ф. Скорины, 28 тел. (8-029) 198-50-06
- КОНТРОЛЁРА-КАССИРА
- ПРОДАВЦА
- ОБВАЛЬЩИКА МЯСА
- ПОВАРА
- КОНДИТЕРА (ФОРМОВЩИКА ТЕСТА)

г. Молодечно, ул. В. Гостинец,136, тел. (8-029) 667-88-69

Отдел персонала: (8-017) 308-16-02, (8-029) 103-19-48, (8-029) 198-13-80 ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624



ISSN 1991–7155



НАВІНЫ

## Як у Маладзечне адсвяткавалі 100 год БНР

МАЛАДЗЕЧНА

З лекцыяй пра гісторыю 100-гадовай даўніны выступіў кандыдат гістарычных навук **Ігар Мельнікаў**.

Даследчык распавёў пра ключавыя моманты ў гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, прадэманстраваў здымкі і артэфакты са сваёй калекцыі.

Вялікую цікавасць у гасцей лекцыі выклікала гісторыя войска БНР у розныя перыяды яго існавання: беларускі полк у 1918 годзе, асобны атрад Балаховіча, брыгада слуцкіх стральцоў войскаў БНР.

Паводле istpravda.ru.

## Алесь Раткевіч выдаў краязнаўчую кнігу

МАЛАДЗЕЧНА

Спадар Алесь з Чысці цягам многіх гадоў збіраў успаміны жыхароў вёсак Вілейшчыны.

У кнізе ён размясціў апрацаваныя ўспаміны. Аб'ём кнігі – 200 старонак.

У працы не толькі гістарычныя ўспаміны, але і шмат старых фотаздымкаў.

Алесь Раткевіч плануе зладзіць прэзентацыю выдання ў Вілейцы. Калі будзе вядомая дата, мы паведамім.

Аўтар кнігі – ён жа і пастаянны аўтар краязнаўчых артыкулаў на старонках "Рэгіянальнай газеты".

Аддзел інфармацыі.

## У нядзелю правядуць кірмашы

ВАЛОЖЫН, АШМЯНЫ

31 сакавіка на плошчы ў Валожыне зладзяць кірмаш з удзелам арганізацый гандлю, прамысловасці, грамадскага харчавання, сельскай гаспадаркі, фермераў, распавялі ў Валожынскім райвыканкаме.

Арганізатары абяцаюць даступныя цэны. Арганізуюць канцэртную праграму.

У Ашмянах у гэты дзень зладзяць велікодны кірмаш на плошчы 17 Верасня ў гарадскім скверы. Тут прапануюць набыць падарункі, кандытарскія і кулінарныя вырабы.

Аддзел інфармацыі.

## Адкрылі музей Вілейскага лясгаса

ВІЛЕЙКА

23 сакавіка правялі першую экскурсію ў музеі Вілейскага доследнага лясгаса. Музей месціцца ў Куранцы, у старым будынку Куранецкага лясніцтва. Ён расказвае пра гісторыю стварэння лясгаса, якая пачынаецца ад 1930-х гадоў.

У экспазіцыях – дакументы, фотаздымкі кіраўнікоў і звесткі пра іх, узнагароды, падручнікі па якіх рыхтавалі спецыялістаў лясной гаспадаркі, інструменты, неабходныя ў працы.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Вязынцы гукалі вясну

МАЛАДЗЕЧНА

Водар старадаўняй травяной гарбаты з самавара перамешваўся з пахам сучаснага папкорну. А гліняным свістулькам падпявалі сапраўдныя птушкі.

У суботу, 24 сакавіка, музей Янкі Купалы ў Вязынцы і студэнцкае этнаграфічнае таварыства зладзілі традыцыйнае Гуканне вясны на радзіме Янкі Купалы, у Вязынцы.

Як заўжды, былі песні, карагоды ў сотню чалавек, гульні, арэлі, папяровыя птушкі, травяная гарбата, гандляры з прысмакамі, сувенірамі і ўпрыгажэннямі.

Просценькія, але аўтарскія завушніцы з бісеру каштавалі пяць рублёў. Кубак гарбаты, каб пагрэцца, прапаноўвалі за рубель пяцьдзясят капеек. Столькі ж каштаваў кавалак пірага з яблыкамі.

– Менавіта ў гэтай калысцы спаў будучы паэт? – запыталі мы ў экскурсавода ў музеі.

– Калыска сапраўды таго часу і карысталіся ёй у гэтай мясцовасці, – шчыра патлумачылі нам. – Сказаць дакладна, што ў ёй ляжаў маленькі Ясь, нельга. Але ў вёсцы такія рэчы перадавалі з сям'і ў сям'ю, калі нараджаліся немаўляты. Таму верагоднасць ёсць.

Аксана ЯРАШОНАК.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Дрэвы стракацелі ад папяровых птушак.


Фота mlyn.by.

Палова кватэр у 80-кватэрным доме, які дабудуюць сёлета, будуць сацыяльнымі.

# Якія дамы пабудуюць, якія здадуць у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**12 дамоў адрамантуюць, адзін здадуць, паправяць тратуар на Кастрычніцкай – такія звесткі "Рэгіянальная газета" атрымала з Вілейскага райвыканкама ў адказ на наш запыт.**

Сёлета дакладна здадуць адзін дом па вуліцы Незалежнасці ў Вілейцы.

Яго будуюць па дзяржзаказе. Тут будзе 30 кватэр. Побач з домам, згодна з нарматывамі, размесціцца стаянка для аўтамабіляў і дзіцячая пляцоўка.

Сёлета пачнуць будаваць дом, дзе будзе арэнднае жыллё. Дом паўстане ў мікрараёне Паўночны-36. У ім будзе 40 кватэр.

Нагадаем, што інфармацыю пра свабодныя арэндныя кватэры змяшчаюць на сайце райвыканкама. Каб атрымаць такое жыллё, трэба падаць заяву і стаць на чаргу.

На працягу года пабудуюць і дом на 80 кватэр у мікрараёне Паўночны-37. Дом будзе складацца з двух блокаў.

Палова кватэр у гэтым доме – сацыяльныя. Гэта значыць, што іх атрымаюць людзі з пэўнымі захворваннямі, інваліды, сем'і з дзецьмі-інвалідамі, сіроты і некаторыя іншыя катэгорыі.

**Вядомы і пералік жылых дамоў, якія сёлета капітальна адрамантуюць. У спісе Вілейскай ЖКГ – 13 такіх аб'ектаў. Гэта дамы №№38, 65, 65-а, 67, 69 на вуліцы Кастрычніцкай.**

На завулку Школьным адрамантуюць дом №11. На вуліцы Вадап'янава рамонт чакае дамы №№25, 27, 76, 78; на Лаўрыновіча – №79, на Чырвонаармейскай – №28.

Згодна з гэтым спісам, добраўпарадкуюць тратуар на вуліцы Кастрычніцкай. Не ўвесь, а менавіта на ўчастку ад Піянерскай да Гагарына.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Да абласных "Дажынак" рэканструююць амфітэатр і адкрыюць новую гасцініцу

МЯДЗЕЛ

**У Мядзеле да абласнога фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2018" рэканструююць гарадскі амфітэатр і ўвядуць у дзеянне гасцініцу на 100 месцаў, паведаміў старшыня Мядзельскага райвыканкама Анатоль Вайнілка.**

"Па гасцініцы работы выкананыя прыкладна на 75%. Да канца мая – пачатку чэрвеня іх плануецца завяршыць і здаць аб'ект у эксплуатацыю. Яго ўзвядзенне вядзецца за кошт сродкаў абласнога бюджэту, – расказаў Анатоль Вайнілка. – Што тычыцца гарадскога амфітэатра ў Мядзеле, то ўжо практычна гатовая праектна-каштарысная дакументацыя па яго рэканструкцыі. Па раёне працягваецца навядзенне парадку на зямлі, знос старых будынкаў".

Па словах старшыні райвыканкама, у Мядзеле праводзіцца мадэрнізацыя водаправодных сетак. У цэлым запланавана будаўніцтва сямі кіламетраў новых камунікацый. Раней пабудавалі дзве артэзіянскія свідравіны. Гэтыя мерапрыемствы дазволяць вырашыць у райцэнтры праблему перавышэння ўзроўню жалеза ў водаправоднай вадзе.

Анатоль Вайнілка таксама распавёў аб мадэрнізацыі цеплавых сетак Мядзела, распрацоўцы праектна-каштарыснай дакументацыі на аб'екты капітальнага і бягучага рамонту, а таксама рэканструкцыі некаторых з іх. У цэлым усе арганізацыі, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёна, далі свае планы па добраўпарадкаванні і навядзенні парадку на зямлі. Да абласнога фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі таксама распрацаваная і зацверджаная канцэпцыя добраўпарадкавання курортнага пасёлка Нарач.

Дакладную дату правядзення свята ў Мядзеле вызначаць пазней.

Аддзел інфармацыі.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Дзяржнагляд знайшоў парушэнні ў продажы адзення для дзяцей і падлеткаў.

# Дзяржнагляд аштрафаваў некаторыя прадпрыемствы і крамы

МАЛАДЗЕЧНА

**У 2017 годзе супрацоўнікі інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску праводзілі планавыя і пазапланавыя праверкі, маніторынгі на прадпрыемствах.**

Увагу надавалі імпартнай электратэхніцы, прадуктам, таварам лёгкай прамысловасці і таварам для дзяцей і падлеткаў, асабліва рэчам, якія пастаўляюць з Сярэдняй Азіі па нізкіх цэнах.

Пры праверцы ААТ "Маладзечанскі малочны камбінат" устанавілі, што пяціпрацэнтны тварог не адпавядаў неабходным тэхнічным патрабаванням.

**Прадпрыемства атрымала прадпісанне на забарону продажу тавару на суму 5201,25 рубля.**

На гэтым жа заводзе смятана 26-працэнтнай тлустасці не адпавядала патрабаванням, былі парушэнні ў маркіроўцы. На прадпрыемстве ўжо прадалі партыю гэтай смятаны на суму 7876,2 рубля. Склалі пратаколы на юрыдычных і фізічных асоб. Сума штрафу – 1408,6 рубля.

Праверылі таксама, ці выконваюць прадаўцы падлеткавых і дзіцячых рэчаў патрабаванні заканадаўства і тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза. Звярнулі ўвагу на гандляроў, што прадаюць тавары па нізкіх цэнах, прывезеныя з Сярэдняй Азіі.

У краме "ZимаLето" ІП Шпакоўскай праверылі рэчы для дзяцей і падлеткаў на адпаведнасць неабходным патрабаванням. 98% патрабаванняў па маркіроўцы і абавязковай адпаведнасці парушалася.

Пазней маніторынг правялі паўторна і заўважылі, што выправілі не ўсе парушэнні. За гэта крама заплаціла штраф 243,9 рубля.

У прадаўцоў адсутнічалі дакументы, што пацвярджаюць бяспеку і адпаведнасць патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза. Рэчы няправільна маркіравалі, таму пакупнік не мог ведаць усе неабходныя звесткі пра тавар, што набывае.

Пры праверцы ТАА "Еўрагандаль" устанавілі, што аўтамабільная шклоамывальная вадкасць "Бляск 22Э" гандлёвай маркі Supercar-22 °C вытворчасці ЗАТ "Чабор" Гродзенскай вобласці не адпавядала стандартам, парушаліся правілы маркіроўкі. Склалі пратаколы на юрыдычную і фізічную асобу.

У 2018 годзе інспекцыя дзяржнагляду па-ранейшаму будзе правяраць, ці адпавядае прадукцыя неабходным стандартам, і папярэджваць парушэнні.

**Таіса ПЯТРОВА,**
**начальнік аддзела Дзяржнагляду Маладзечна.**

## Спецыялісты – пра тое, як разлічваць даход базавай прыбытковасці

МАЛАДЗЕЧНА

**Што трэба ведаць арганізацыям, якія аказваюць паслугі СТА і выплачваюць адзіны падатак на прызначаны даход?**

Яго вылічваюць як даход базавай прыбытковасці на аднаго супрацоўніка ў месяц і сярэдняй колькасці работнікаў арганізацыі за справаздачны месяц, згодна з Падатковым кодэксам.

Каб вызначыць базавую даходнасць на аднаго работніка ў месяц, трэба падзяліць максімальную базавую стаўку адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб на каэфіцыент 0,1.

Ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2018/01/25 №29 максімальная базавая стаўка адзінага падатку на 2018 год па тэхабслугоўванні і рамонце аўтамабіляў складае 4123,80 рубля.

Згодна з рашэннем Мінскага абласнога Савета дэпутатаў ад 2014/03/12 №281 базавая даходнасць на аднаго работніка ў месяц у Маладзечне паменшаная на 600 рублёў, у іншых гарадах Мінскай вобласці – на 1000 рублёў.

Такім чынам, памер базавай даходнасці для Маладзечна складае 3 523,80 рубля;

для астатніх гарадоў Мінскай вобласці 3 123,80 рубля.

**Інспекцыя МПЗ**
**па Маладзечанскім раёне.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.03 | 29.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9623 | **1,9511** |
| Еўра | 2,4086 | **2,4176** |
| Злоты, 10 | 5,6806 | **5,7472** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4121 | **3,3895** |
| Грыўня, 100 | 7,4626 | **7,3724** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 21.03 | 28.03 |
| Еўра | 2.4000/2.4250 | **2.4050/2.4250** |
| Долар ЗША | 1.9500/1.9700 | **1.9430/1.9550** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.03 | 28.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,95 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,95 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,90 | **3,40** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | 4,50 | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 2,95 | **3,70** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,80 | **5,70** |
| Бульба, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,69 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Памідоры, 1 кг | 3,40 | **3,79** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,99** |
| Радыс, 1 кг | - | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **3,49** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,20** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,69** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,99 | **2,80** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | **1,80** | **1,80** |
| Масла, 1 кг | **14,00** | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | **-** | **-** |
| Сала, 1 кг | **11,00** | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | **6,00** | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | **3,00** | **3,00** |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УНИТАРНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ
«МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»
ПЕРЕВОДЫ личных и учредительных документов,
✔ английский
✔ немецкий ✔ испанский
✔ польский ✔ греческий
✔ французский
✔ итальянский
✔ литовский ✔ украинский
научно-технической, экономической, юридической, коммерческой документации и литературы, формационно-рекламных и справочных материалов и пр.
в том числе и для нотариального заверения
г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: (8-0176) 55-46-64, 55-46-65, 55-46-67
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

● НАВІНЫ

## Абакраў касцёл, а пасля за месяц сабраў 10 правапарушэнняў

ВАЛОЖЫН

34-гадовы жыхар Івянца за жнівень – кастрычнік мінулага года двойчы абакраў касцёл. З забаўляльнага цэнтра для прыхаджан ён краў музычную апаратуру. Першы раз – на 1000 рублёў, другі – на больш за 3000 рублёў.

За два крадзяжы ён атрымаў абмежаванне свабоды на год без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу. Калі цягам гэтага года мужчына ўчыніў бы тры правапарушэнні, то атрымаў папярэджанне, што наступным стане ўхіленнем ад выканання пакарання.

Ад 8 студзеня да 2 лютага мужчына паспеў учыніць 10 правапарушэнняў. На мінулым тыдні пракурор запатрабаваў для мужчыны два гады пазбаўлення свабоды.

– Гэты івянчанін не баіцца ні бога, ні закона, – падсумоўвае старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**. – Ён быў раней судзімы, але тыя судзімасці пагашаныя. Яго бацькі – пенсіянеры. З 13-гадовым сынам даверлівыя адносіны. Але нічога з гэтага не спыніла, каб трымаць сябе ў межах закона.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ад чаго загінуў гаспадар у пакуль адзіным сёлета пажары

ВАЛОЖЫН

У 2017 годзе на чатыры выпадкі больш, чым у 2016 годзе. Усе выпадкі смерцяў на пажарах Следчы камітэт дэталёва аналізаваў.

Адмысловая камісія з прадстаўнікоў сельсаветаў, выратавальнікаў, міліцыі разглядалі аналіз следчых. Для прафілактычнай работы яны размаўлялі з тымі жыхарамі, якія мелі падабенства па ладзе жыцця. Правяралі печкі ў прыватных дамах, дапамагалі выправіць хібы. Вынікам такой работы стала тое, што ўсе, з кім правялі працу, не пацярпелі ад пажараў.

Аднак адзін няшчасны выпадак усё ж адбыўся ў Гародзьках. 26 студзеня загарэўся дом 85-гадовага мужчыны. Сам гаспадар характарызаваўся станоўча. А вось яго госцю ўзгадваюць як жанчыну, якая была не супраць чаравак там, дзе было застолле. У той дзень дзядулю праведала сацыяльны работнік, але мужчына папрасіў не перашкаджаць. У пажары загінулі абое.

Прычынай стала няспраўнасць печкі.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта.**

# Страхавы агент ездзіла за мяжу па падробленай страхоўцы

АСТРАВЕЦ

**Жанчына некалькі разоў ездзіла па падробленай страхоўцы, пакуль урэшце не трапілася на мяжы.**

Ад сакавіка да кастрычніка мінулага года жанчына працавала страхавым агентам у філіяле "Белкаапстрах" у Брэсце. Яна магла ад імя арганізацыі афармляць дагаворы страхавання, у тым ліку транспарт па сістэме "Зялёная карта". Яе службовым абавязкам было весці ўлік і дакументацыю страховак, беражліва ставіцца да полісаў і бланкаў строгай справаздачнасці.

Ноччу 28 жніўня 2017 года жанчына, каб зэканоміць, падробіла страхоўку. Падробленыя дакументы збіралася выкарыстоўваць для неаднаразовых паездак у Літву на аўто "Міцубісі". У копію страхоўкі яна ўнесла дадзеныя іншага чалавека, сябе паставіла страхавым агентам. Пазначыла, што сума ўнёску – 59 долараў, а тэрмін дзеяння – ад 28 да 31 жніўня. Звесткі аб дагаворы страхавання ўнесла ў сваю справаздачу і перадала з копіяй фіктыўнага поліса на працу.

У арыгінал поліса "Зялёная карта", арыгінал і копію міжнароднага маторнага страхавання пазначыла тэрмін дзеяння ад 28 жніўня 2017 да 27 мая 2018 года, сваю машыну і свае пашпартныя дадзеныя. Сумай унёску пазначыла 356 долараў.

Абвінавачаная такім чынам выйгравала 225 еўра – розніца паміж страхавым полісам на адзін месяц і дзевяць.

Па падробленай страхоўцы яна ездзіла ў Літву 30 жніўня, 14, 21 і 27 верасня праз пункт пропуску "Лоша" Астравецкага раёна. Пры пашпартным кантролі давала падробленыя дакументы.

5 кастрычніка яна чарговы раз паехала ў Літву і пры праверцы дала падробленую страхоўку. Яе затрымаў пагранічны нарад, забраў дакументы.

Абвінавачаная сваю віну прызнала цалкам.

Суд кваліфікаваў злачынства агента як "Уняссенне іншай упаўнаважанай асобай заведама непраўдзівых звестак і запісаў у афіцыйныя дакументы з карыслівай зацікаўленасцю".

Абвінавачаная – 42-гадовая ўраджэнка Брэста. Мае няпоўную сярэднюю адукацыю. Разведзеная, мае маленькага сына. Не працуе, жыве ў Брэсцкім раёне. Раней не судзімая.



**Бухгалтар даплачвала сабе заробак з рахунка фірмы.**

Памякчальнымі абставінамі сталі чыстасардэчнае раскаянне, малое дзіця і добраахвотная кампенсацыя шкоды.

Суд прызнаў жанчыну вінаватай. Прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на год. Аднак вырашыў не выконваць пакаранне, калі цягам года жанчына не ўчыніць новае злачынства і будзе выконваць абавязкі. Сярод іх – паведамляць міліцыі аб змяненні адраса, выездзе больш чым на месяц, прыходзіць у міліцыю па выклікі і тлумачыць паводзіны і лад жыцця па патрабаванні.

Цягам шасці месяцаў абвінавачаная павінна сплаціць у даход дзяржавы шкоду памерам 40 базавых велічынь (980 рублёў).

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Паехала працаваць на "Ждановічы" і не вярнулася

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі райаддзел міліцыі вышуквае **Элу Станіславаўну Міцкевіч.**



Жанчына нарадзілася 3 студзеня 1968 года. Жыве ў Маладзечне на Крынічнай.

10 сакавіка паехала на працу на рынак "Ждановічы". Дагэтуль невядома, дзе яна.

На выгляд зніклай 50 год, рост 160-174 сантыметры. Смуглы твар, шэрыя вочы, прамыя чорныя валасы.

Была апранутая ў шэрую вязаную шапку, чорную кароткую зімовую куртку, чорныя штаны, чорныя зімовыя чаравікі.

Мела карычневую жаночую сумку.

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклай, калі ласка, паведаміце ў маладзечанскую міліцыю. Тэлефоны: **(80176) 74-96-83, 77-16-56, (8029) 555-49-71** ці **102.**

**Маладзечанскі РАУС.**

## Шукаюць валожынца, які паехаў на заробкі ў Маскву

ВАЛОЖЫН

Валожынскі райаддзел Следчага камітэта вышуквае **Мікалая Сяргеевіча Касоўскага.**

Ён нарадзіўся 19 чэрвеня 1981 года ў Валожыне.

У канцы мая 2017 года паехаў на працу па найме ў Маскву.

Прыкметы: на выгляд 35-40 год, рост 160-174 сантыметры, хударлявы. Смуглы, карыя вочы. Цёмна-русыя прамыя валасы. Картавіць, марудна размаўляе. Абутак 42-43 памеру. Хуткая хада.

Курыць, выпівае.

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне Касоўскага М. С., просім паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **(801772) 5-53-02, 5-40-21, (8029) 685-53-02, (8029) 507-66-98** ці **102.**

**Валожынскі РАСК.**

## Жонка шукала мужа, які паехаў на заробкі ў Расію. А ён усё прапіў

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 20 сакавіка ў Маладзечанскі райаддзел міліцыі прыйшла 40-гадовая жанчына. Яна падавала заяву, што муж знік.

Мужчына паехаў на заробкі ў Расію месяц таму. Увесь гэты час выходзіў на сувязь. Апошні раз тэлефанаваў вечарам 17 сакавіка. Расказаў, што назаўтра павінны вярнуцца.

За два дні так і не з'явіўся, на сувязь не выходзіў.

Міліцыянеры звязаліся з расійскімі калегамі. І 22 сакавіка муж пазваніў жонцы. Расказаў, што ўсё ў парадку, але вырашыў папрацаваць у Расіі яшчэ.

Планы змяніліся не проста так. Адзін беларус меркаваў вярнуцца дадому і атрымаў разлік за працу, вырашыў адзначыць заробак.

Застолле зацягнулася на тры дні. І асноўную частку заробленага маладзечанец прапіў.

Грошай не засталося нават, каб вярнуцца дадому.

**Яўген САЧАК, УУС Мінаблвыканкама.**

## Рабаўнік, які хацеў абакрасці 71-гадовую пенсіянерку, яе згвалціў

АШМЯНЫ

Пра тое, што жанчыну спрабавалі абакрасці, мы пісалі раней.

Але гэта не ўсё, што адбылося той ноччу. УУС Гроднааблвыканкама ўдакладняе:

У кватэру жыхаркі Ашмянскага раёна праз акно залез невядомы. Разбудзіў жанчыну і пад пагрозай нажа патрабаваў грошы. Грошай у пенсіянеркі не было.

Раззлаваны злачынец яе згвалціў.

Пацярпелая распавяла пра здарэнне сыну. Выклікалі міліцыю.

Падазраваны – неаднаразова судзімы жыхар Слонімскага раёна.

У Ашмянах 44-гадовы мужчына лячыўся ад туберкулёзу.

Завялі крымінальную справу.

**УУС Гродноаблвыканкама.**

## Запалілі печку – і паехалі ў госці

МЯДЗЕЛ

23 сакавіка гарэў жылы драўляны дом у аграгарадку Слабада, што на Мядзельшчыне.

У доме жыла гаспадыня-пенсіянерка з дарослым сынам. Калі здарыўся пажар, яны былі ў гасцях у Мядзеле.

Сын і заўважыў пажар, калі вярнуўся дадому. З-пад даху ішоў дым, хата таксама была задымленая. Мужчына выклікаў выратавальнікаў.

Прагарэла падлога каля печкі, часткова закураная маёмасць. Верагодна, прычынай пажару стала няправільнае карыстанне печкай.

– У доме быў пажарны апавяшчальнік, – распавяла інспектар групы прапаганды і навучання Мядзельскага ГРАНС – **Ірына Карапецян**. – Яго паставілі за сродкі Мядзельскага райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Загінулы ў мінскім метро – валожынец

ВАЛОЖЫН

Пра гэта паведаміла БелТА афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінску **Марына Драњькова**.

"Загінулы – 49-гадовы жыхар Валожына", – сказала яна. На відэазапісе з камер назірання відаць, што мужчына ўпаў на рэйкі перад цягніком.

Для ўстанаўлення прычыны смерці прызначылі судова-медыцынскую экспертызу. Следчыя просяць відавочцаў патэлефанаваць аператыўна-дзяжурнай службе УСК па Мінску: 8 017 389 55 55.

Здарэнне адбылося апоўдні 26 сакавіка на станцыі метро "Купалаўская". Мужчына ўпаў пад рухомы састаў на першым галоўным пуці.

**БелТА.**

# Колькі каштуе адпачынак і як на ім зэканоміць

**Для пачатку абярыце, вы разлічваеце на адпачынак у Беларусі, тур выхаднога дня ці сапраўднае заморскае падарожжа на 7-10 дзён.**

Пуцёўкі ў беларускія санаторыі пачынаюць купляць яшчэ восенню. Цана за адно ложкамесца на дзень – ад 25 рублёў. Аднамесны нумар з адным ложкам можна заказаць за 36 рублёў на суткі, двухмесны нумар абыдзецца ў 28 – 77 рублёў.Так што ехаць выгадней парай.

Нумар для людзей з абмежаванымі магчымасцямі ацэньваюць у 90 рублёў, пакоі павышанай камфортнасці, люксы і апартаменты выйдуць у 92 – 289 рублёў на суткі.

У санаторыях таксама бываюць гарачыя пуцёўкі, а таксама праграмы лаяльнасці. Некаторыя санаторыі прапануюць скідку, калі дзень нараджэння кліента прыпадзе на час адпачынку ў санаторыі.

Можна паспрабаваць купіць тур па Беларусі. За тыдзень вы аб'ездзеце самыя вядомыя мясціны, даведаецеся пра тое, чым варта ганарыцца, і ўбачыце помнікі, пра якія чыталі ў падручніках. Што глядзець у Беларусі? Загадкавае Мёртвае возера, сасна жаданняў "Стары манах", мелавы кар'ер, лепшыя аглядныя пляцоўкі, удзел у анімацыйных праграмах.

Ад 118 рублёў бяруць за тур выхаднога дня па Беларусі, у якім наведаеце Троіцкае прадмесце, Хатынь, Курган Славы, Мір і паабедаеце ў Нясвіжскім замку.

### Тур выхаднога дня

Гэта супермагчымасць, калі ваш бос – бязлітасны кат, што не дае сысці ў адпачынак летам. А вы вазьміце і схадзіце хаця б на некалькі дзён. І грошай патраціце менш, і пазлуеце начальніка.

Асабліва выгадна карыстацца такой прапановай, калі вы хочаце пабачыць дарагі горад, жыць у якім тыдзень – не па вашай кішэні. За чатыры дні і 310 рублёў вы можаце пабываць у Таліне, Стакгольме і Рызе і нават пакатацца на пароме. Скандынаўскія краіны дарагія для большасці беларусаў. За вячэру ў рэстаране вы заплаціце прыкладна 160 рублёў, каву з пірожным у кавярні – 12 рублёў, а за літр малака – 3.

Тур па Літве з дзвюма начоўкамі, наведваннем аквапарка, спа і трыма экскурсіямі абыдзецца ў 180 рублёў. Тры-чатыры ночы ў Празе можна правесці, заплаціўшы ад 152 рублёў. Многія чэшскія туры прапануюць экскурсіі па чароўных мясцінах гэтай краіны – казачная архітэктура, атмасферныя вулічкі і непаўторныя прысмакі. Сачыце, каб у вас дакладна было хаця б некалькі гадзін па-за праграмай – атрымаць асалоду ад горада без лішніх людзей.

Што аб'ядноўвае Адэсу, Львоў і Піцер? Гэта тры ахутаныя ўнікальнымі легендамі гарады, у якіх варта пабываць хоць раз у жыцці кожнаму. Калі раней усё ніяк не атрымоўвалася выбрацца, у кожны з іх можна з'ездзіць у межах тура выхаднога дня.

Туры выхаднога дня ў гэтыя гарады – ад 110 рублёў.

### Адпачыць на моры

Вы шмат працавалі, адкладалі капейкі і можаце ўрэшце папесціць сябе і пагрэцца не менш як тыдзень на моры.

Ну, а раз можаце сабе дазволіць, адкрываецца варыянт ісці шляхам большасці суайчыннікаў і рвануць на турэцкі олінклюзіў ці егіпецкія піраміды. І ў Егіпет, і ў Турцыю можна трапіць, заплаціўшы 480-600 рублёў. Прапануюць вылецець з Мінска і Кіева.

Калі ўжо надакучылі самыя папулярныя курорты, можна паспрабаваць Чарнагорыю. Ад 830 рублёў вы атрымаеце і пляж, і горы. Іспанія і Ізраіль – за 10 начэй заплаціце ад 1 000 рублёў.

### Для дзяцей

Дзяцей можна адправіць адных у моладзевыя летнікі. Многія з іх тэматычныя. Напрыклад, за 730 рублёў можна набыць пуцёўку на 14 начэй у Польшчы. Дзяцей чакае шмат экскурсій і спартыўных гульняў. 15 начэй у Балгарыі можна купіць за 570 рублёў – шмат забаўляльных анімацый і аквапарк.

990 рублёў прыйдзецца аддаць за дзіцячы тур па Еўропе, падчас якога дзіця наведае берлінскі заапарк, музеі і цэнтры ў Амстэрдаме, Прагу, Парыж і Дыснэйлэнд.

### Зэканоміць на жыллі

Калі вы ўпэўненыя ў тым, што зможаце самі спланаваць адпачынак і лагістыку, зможаце зэканоміць на турагенцтве. Але яго дапамогі ёсць сэнс скарыстацца для атрымання візы – так вы значна аблегчыце сваё жыццё.

Паспрабуйце знайсці сэрвісы для падарожнікаў. Многія людзі гатовы прапанаваць дом, напрыклад, у Балгарыі, на тыдзень за тое, каб вы яго прыбралі і карміглі рыбак. Калі едзеце за ўражаннямі, а не олінклюзіў, пераначаваць можна і ў танных хостэлах. А пазнаёміўшыся з добразычлівымі мясцовымі жыхарамі онлайн, можна забяспечыць сабе бясплатную экскурсію.

Абірайце падарожжа аўтастопам – абавязкова пачытайце форумы аўтаспыншчыкаў. Яны падзеляцца цікавымі месцамі і дадуць параду, як і куды ехаць.

Куды б і як вы ні сабраліся, добра вывучыце мясцовыя звычаі. Магчыма, прыедзеце ў горад у час свята, калі будуць зачыненыя ўсе магазіны.

### Дзе адпачывалі ў 2017 годзе

Летась за мяжу выехала амаль 730 тысяч чалавек праз турфірмы. Самыя папулярныя накірункі сярод беларусаў – Турцыя, Егіпет, Украіна, Балгарыя і Расія. За тур беларусы ў сярэднім плацілі амаль 440 долараў у эквіваленце.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




* разам з Сінгапурам першае месца дзеліць Японія

** трэцяе месца занялі сем краін: Фінляндыя, Данія, Італія, Іспанія, Францыя, Швецыя і Паўднёвая Карэя.

## Беларусь на 68 месцы ў рэйтынгу мабільнасці пашпартоў

**Міжнародная кампанія Henley&Partnets некалькі разоў на год даследуе свабоду перамяшчэння ва ўсіх краінах і складае рэйтынг краін з самымі "мабільнымі" пашпартамі.**

Сёлета на пачатку сакавіка на першае месца выйшлі Сінгапур і Японія – уладальнікі пашпартоў гэтых краін могуць без віз наведаць 180 краін свету.

Крыху адстала ў гэтым паказчыку Германія, а трэцяе месца раздзялілі паміж сабой сем краін.

Беларусь заняла 68 месца – паміж Аманам і Інданэзіяй.

Цікава, што яшчэ ў студзені 2018 года наша краіна займала 65 пазіцыю.

Насамрэч цягам двух месяцаў Беларусь не павялічыла і не паменшыла колькасць дамоў аб бязвізавым перамяшчэнні.

Але апусцілася на два пункты за кошт росту мабільнасці іншых краін.

Самы хуткі рост мабільнасці ў свеце за мінулы год паказала Украіна – яна паднялася на 16 пазіцый. Цяпер украінцы без віз могуць наведаць 118 краін.


**Туристическое агентство "Истэн-Винд" предлагает:**

**Отдых на море 2018**
*Раннее бронирование (авиатуры и автобусные туры)*
*Болгария, Турция, Египет, Испания, Тенерифе, Греция, Таиланд, Мальдивы, Черногория, Италия. Украина, Россия.*

**Экскурсионные автобусные туры по Европе**
*Венгрия, Чехия, Польша, Германия, Австрия Франция. Италия, Швейцария, Скандинавия, Прибалтика, Россия, Украина*

**Детский отдых**
*в Болгарии, в Крыму, Краснодарском крае*

**Туры выходного дня**
*Одесса (выезды из Минска и из Молодечно), Золотое кольцо, Москва, Санкт-Петербург, Львов, Ужгород, Вильнюс, Рига, Таллин, Стокгольм, Краков, Величка.*

**Визовая поддержка**
**Авиабилеты** - *вылеты из Минска, Вильнюса, Варшавы, Москвы*

Наш адрес: *г. Молодечно, ул. Притыцкого 21, к 2*
Тел. 0176 **538-308**, мтс 029 **252-55-85**, велк. 029 **689-52-96**
эл. почта **eastern-wind@tut.by** наш сайт: **easw.by** УНП 690587787




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Зафіра, 2007г., 1,9 дызель, цёмна-сіні. Т. (8-029) 6359630.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто дорага, ў любым стане, ацаню шчодра – не пашкадуеце!. Т. (8-025) 5277913.*

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто 0,01 – 4,0 л, іншамарку 1986-2018 г.в. у любым стане, можна аварыйную. Т. (8-029) 9078269, (8-033) 3495240.*

• Аўто ВАЗ, Масквіч, Волга, УАЗ, старую іншамарку і інш. у любым стане. Т. (8-029) 5261974.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

**СТО** ООО “Авто-Мотор- Плюс” УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя, турбин**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

Шчыра спачуваем вам, **Аляксандра Дзям’янаўна, Віталь і Аксана Макаўчукі**, з прычыны непапраўнага вялікага гора – смерці мужа, бацькі, свёкра Івана Адамавіча. Мы падзяляем ваш боль і смутак. Трымайцеся!
**Ад сям’і Аляксея Бераснева.**

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕВК-14 (0,9 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Хітачы, пагрузчыка Амкадор, самазвала 20 т, трала 24 т. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. (8-029) 3713335, (8-033) 3133535.*



# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, 91. 59 кв. м, 5 паверх. Т. (8-029) 3345737.*

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева,62; 61,3 кв. м, 5 паверх, 74 000 бел. руб, торг. Т. (8-029) 5056728.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 6333777.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. В. Гасцінец, 76; 60 кв. м, кухня 6,5 кв. м, 2/5 панэльнага дома. Т. (8-033) 6602079, (8-0176) 538069.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Гараж у ГК №12 Маладзечна. Т, (8-029) 5612059.*

• Дача ў в. Дземяшы, каля пас. Беразінскае, 25 сотак зямлі. Т. (8-0176) 549807, (8-029) 9772430.

• Дача ў в. Прынта, участак 4 соткі, побач рака, лес. Т. (8-029) 7512672.*

• Дача у Зялёных Узгорках, 18 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 3925149.*

• Дом драўляны жылы ў Маладзечне. Газ, вадаправод. Т. (8-029) 6691789.*

• Дом драўляны ў а.г. Бабровічы Валожынскага раёна, 40 кв.м, участак 21 сотка, газавае і пячное ацяпленне, гаспадарчыя пабудовы, асфальтавая дарога, 1 км ад трасы Гродна, 3 км – Налібоцкая пушча і рака Іслач, 4 км ад Валожына. Т. Вэлком (8-029) 1349674.

• Дом з гаспабудовамі ў вёсцы Медрыкі Сольскага с/с Смаргонскага раёна (Астравецкі напрамак): лазня, калодзеж. Рэчка, лес. Т. (8-0176) 556831, (8-025) 5294120.

• Дом з участкам у в. Снежкава (Карвелі). Т. (8-033) 3359636.

• Дом у Маладзечне, раён СШ №9, усе камунікацыі, нядорага. Т. (8-029) 3934544.*

• Дом у в. Гаеўцы Маладзечанскага раёна. Участак 57 сотак. Т. (8-01771) 29179, (8-0290 5071096.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (станцыя Валожын). Т. (8-044) 4586051.*

• Дом у Вілейцы з усімі камунікацыямі. Т. (8-029) 7039162.*

• Дом у Вілейцы агульнай плошчай 150 кв. м. Усё цэнтральнае. Участак 0,06 га. Гараж, лазня, сад, альтанка.Т. (8-029) 3455888.

• Дом у Вілейцы, раён Стаўкі. Участак 12 сотак. Т. (8-029) 6621768.

• Дом, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

• Домік блочны з садовым участкам: ягаднікі, дрэвы, вінаград у вёсцы Ласі Маладзечанскага раёна (кааператыў “Брыльянт”). Т. (8-033) 6407558.*

• Зруб драўляны з дахам, 720х560. Т. (8-029) 2649702.

### КУПЛЮ

• Дом у Маладзечанскім раёне ці Вілейскім. Т. (8-0176) 551022, (8-025) 5108699.

### ЗДАМ

• Пакой хлопцу ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



# ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП “Дойлід-С” УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

• Фура 20 тон, адкрытая бартавая. ПУП “Дойлід-С” УНП 600077311. Т. (8-029) 1921299.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Надпіс і фота на майку/кубак – 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 “НгС“. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т, (8-01592) 31570.*

**Продаются квартиры**
в строящемся многоквартирном
**9-ти этажном жилом доме**
по г/п № 8А
**в микрорайоне № 6**
**г. Молодечно.**
Стоимость 1 кв. м -
от 660 у.е. по курсу НБ РБ
на момент оплаты.
Тел. (8-0176) **70-24-78**
(8-044) **544-44-69**
СУП «ЧистьБау» УНП 600042371

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў “Атлант”, “ВЕКО”, “Норд” “Індэзіт”. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Установка помнікаў, уладкаванне сцяжкі, абліцоўка пліткай, добраўпарадкаванне. Растэрміноўка. ІП Казінец Р.Н. УНП 690572663. Т. (8-029) 3893298, (8-029) 5533267.

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• Юрыдычныя паслугі для юрыдычных асоб і ІП: кансультацыі; складанне пісем, прэтэнзій, заяў у суд, выканаўчыя органы; рэарганізацыя, стварэнне юрыдычных асоб і рэгістрацыя ІП, спыненне дзейнасці ІП і ліквідацыя; распрацоўка ЛНПА; распрацоўка дагавораў. Прымальныя цэны. ІП Булава Н.В. УНП 692013929. Т. (8-033) 3313377.

# РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства “Бізнес-Дэталь” УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вагонка, імітацыя бруса, дошкі для падлогі. ІП Кусовіч І. І. УНП 691891279. Т. (8-029) 9394025.*

**ПЕСКОСТРУЙНАЯ ОБРАБОТКА**
- автомобильных дисков и суппортов, негабаритных деталей (заготовок)
**НАНЕСЕНИЕ ПОЛИМЕРНОГО ПОКРЫТИЯ**
- широкий выбор цветовой гаммы красок
**ШИНОМОНТАЖ (РЕМОНТ, БАЛАНСИРОВКА)**
- мелкий ремонт ходовой части легковых автомобилей
**МАГАЗИН АВТОЗАПЧАСТЕЙ**
- оперативная доставка (сегодня на сегодня)
- наличие автозапчастей на складе
Наш адрес: ***г. Молодечно, ул. Громадовская, 47***
Т/факс (8-0176) **77 17 92**, (8-044) **748 80 72**, (8-033) **637 85 80**, (8-029) **696 90 42**, (запись на шиномонтаж) (8-044) **487 11 65**.
ОАО «Завод Ремблттехника» УНП 600153255

**ОХЛАЖДАЕМСЯ БЕЗ ХЛОПОТ!**
**АНТИФРИЗЫ готовые и концентраты,**


**ТОСОЛ оптом и**
**в розницу ДЁШЕВО!**
(8-0176)
**58-12-48**
(8-029)
**63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243

**АККУМУЛЯТОРЫ**
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
**продаём новые и покупаем старые**
ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ
С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ
И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ
*Широкий выбор моторных, гидравлических, индустриальных масел, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости, запчасти к иномаркам*
Тел. (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166. www.batrix.by** ООО “Батрикс” УНП 691893243

**Аккумуляторы BOSCH**
а также широкий выбор аккумуляторов других популярных брендов.
(8-0176)
**58-12-48**,
(8-029)
**63-63-166**
**Принимаем старые АКБ**
СТАРЫЙ НА НОВЫЙ
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
(8029) 762-78-98
(8029) 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• Абаненцкія карты "Трыкалор" – скідкі! акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Мэбля б/у. Т. Вэлком (8-029) 3251269.*

• Канапа-ложак, два крэслы. Усё шэрага колеру. Перацягнутае. У добрым стане. Нядорага. Т. (8-01771) 76695.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635 пасля 19:00.*

• Пеўні кітайскія шаўковыя. Т. (8-0290 1629761.

• Рускі той-тэр'ер, 3 месяцы, сука, 2000 руб. Т. (8-044) 7462476.

**Іншае**

• Пілавінне, гарбыль з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі "Буды". Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Куплю калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Бульбу буйную харчовую ў любой колькасці. Т. (8-029) 2637474, (8-033) 6316374.*

• Бульбу ў насельніцтва. Т. (8-029) 8456305.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя, шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.*

**АДДАМ**

• Шчанят бельгійскай аўчаркі добрым людзям. Т. (8-029) 5030015.*




**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Вадзіцель на аўто КАМАЗ з гідраманіпулятарам. Т. (8-029) 7781236.*

• Цырульнік-універсал. Т. 98-029) 7098759.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу папілаваць і пакалоць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Масажыст шукае падпрацоўку. Т. (8-029) 2609392.

ОАО «Долгиново»
Вилейского района
требуются
МЕХАНИЗАТОРЫ
Предоставляется жильё.
Тел. (8-029)779 64 78
УНП 600010797

"Центр подготовки, повышения квалификации и переподготовки рабочих Вилейского райсельхозпрода"
г. Вилейка объявляет набор с 02.04.2018г.
НА КУРСЫ ПЕРЕПОДГОТОВКИ по профессии
"Оператор манипулятора"
Тел. 8-01771-3-53-69, моб. 8-029-852-76-25
УНП 600011170

ОАО "САВУШКИН ПРОДУКТ"
приглашает к сотрудничеству на постоянной основе
ГРУЗОПЕРЕВОЗЧИКОВ
(в том числе индивидуальных предпринимателей) с автотранспортом грузоподъёмностью 2,5-6 т, оборудованном рефрижераторами (от 2 до 6 градусов) для доставки молочной продукции в торговую сеть г. Минска и Минской области.
Справки по телефонам:
(033) 640-64-65, (029) 105-95-77.
УНП 200030514

ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ ШВЕЙ
для пошива верхней женской одежды – пальто, куртки, плащи
✔ Пятидневная рабочая неделя
✔ Полный соц. пакет
✔ Своевременная сдельно-премиальная оплата от 550 рублей
✔ Три месяца доплата за обучение
Тел. (8-029) 181-53-22 Елена
ЧТПУП «Твин Тил» УНП 190937032

СПУТНИКОВЫЕ АНТЕННЫ
Т. (8-033) 349-44-88
ИП Буслаўскі А.М. УНП 6918987

Спутниковое и цифровое ТВ
Все виды услуг
Тел. (8-029) 561 39 72
ИП Новик С.С. УНП 691398368

Жалюзи Рольшторы
Замер / Доставка / Установка
Тел. (8-029) 559-29-82
359-29-82
ИП Платонов И.И. УНП 692013467

"Рэгіянальная газета" шукае **рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.

Деревообрабатывающему предприятию ООО «Р Группа Форест» п. Чисть требуются:
☑ СТАНОЧНИКИ деревообрабатывающих станков
☑ РАМЩИКИ
☑ СОРТИРОВЩИКИ пиломатериалов
☑ ВОДИТЕЛИ фронтального погрузчика
☑ СТРОПАЛЬЩИКИ
☑ МАШИНИСТЫ харвестера
☑ МАШИНИСТЫ форвардера
Оплата сдельная.
Требования к кандидатам: профильное образование или стаж по специальности от 3-х лет.
(8-044) 7638216 УНП 690665201

ОАО "Шершуны-агро"
Минского района на постоянную работу требуются:
☑ Агроном
☑ Инженер
☑ Трактористы-машинисты
☑ Водители
☑ Операторы машинного доения
Требования: опыт работы. Жильё предоставляется.
Телефон для справок
(8-044) 578 17 11
УНП 690654548

ОКНА ПВХ ДВЕРИ
металлические межкомнатные
Большой выбор
Кредит. Рассрочка
Хорошая цена за отличное качество
Скидки до 30%
Велком (8-029) МТС (8-033) 690-3-222
ИП Селицкий В.Т. УНП 691896176

ОКНА ПВХ
металлические, межкомнатные двери
ОКНОГРАД
РАССРОЧКА до 12 месяцев СКИДКИ до 50%
Срок действия акции ограничен
Тел. (8029) 110-63-91, (8033) 351-68-39
ООО "Окноград" УНП 690639306

СТРОИТЕЛЬНЫЕ МАТЕРИАЛЫ
☑ Рассрочка до 20 мес.
☑ Скидки до 50%
☑ Доставка
По оптовым ценам более 200 наименований: сайдинг, кровля, гипсокартон, утеплитель, блоки, кирпич, сухие смеси и др.
ИП Ринкевич Г. М. УНП 690639306
+37529-684-58-88, +37529-748-98-77

КУПЛЮ
коня, КРС и др.
а также вынужденный убой. Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) 777-44-48
(8-029) 393-92-56
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

ТУРБИНЫ
Ремонт в Молодечно
Тел. (8-029) 500-41-57
(8-029) 363-13-14
ИП Згрундо А.М. УНП 692017169

■ ПЕЧИ ДЛЯ БАНИ
■ БАКИ
■ ЕМКОСТИ
для воды
ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ
АРГОННАЯ СВАРКА
www.svarimvse.by ИП Нестерович
8-044-743-59-27 УНП 691171264

• ТРУБЫ
• уголки
• швеллеры
• арматура
• листы
• сетка рабица
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ.
РЕЗКА. Доставка
Аренда автокрана
г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

Двери Окна
◆ Входные ◆ Скидки
◆ Межкомнатные ◆ Рассрочка
КОЗЫРЬКИ
Замер
Доставка
Установка
Велком 8(029) 359-29-82
МТС 8(029) 559-29-82
ИП Платонов И.Н. УНП 692013467

Энергосберегающие окна из ПВХ
Ремонт окон любой сложности
Отделка откосов и лоджий
- низкие цены, честные скидки
- рассрочка без банков и без %
тел. 8 029 870 83 83
тел. 8 044 718 19 82
ООО «ОКНОГРАД». УНП 690639306

## Вы не забыліся даслаць бланкі з добрымі адзнакамі ў рэдакцыю?

Да канца вясновых канікулаў засталося пару дзён. Зусім хутка пачнецца апошняя вучэбная чвэрць. А вы не забыліся паўдзельнічаць у нашай акцыі "Дзясятачка"?

Усё бліжэй розыгрыш планшэта і час паходу ў піцэрыю для самага актыўнага класа.

Для тых, хто добра вучыцца і жадае да летніх канікулаў займець патрэбную рэч, нагадваем правілы.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, зароблены цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№13)**

1. Імя, прозвішча____________________

2. Дата нараджэння ____________________

3. Клас
Школа____________________

4. Населены пункт____________________

5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі

6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________

7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________

9. Імя, імя па бацьку ____________________

10. Прозвішча настаўніка ________________

11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________

12. Подпіс настаўніка____________________

ТЕПЛИЦЫ И БЕСЕДКИ
ПОЛИКАРБОНАТ
АКЦИИ ПОДАРКИ ПЕНСИОНЕРАМ СКИДКИ
ДОСТАВКА - МОНТАЖ - РАССРОЧКА БЕЗ %
ТЕЛ. (8033)373 80 20 МТС (8029)324 80 20 Велком
WWW. SVKR.BY
ООО "Светопрозрачная кровля" УНП 591001987

ДВЕРИ
входные от 350 руб.
СТАНДАРТНЫЕ И НА ЗАКАЗ
межкомнатные от 150 руб.
МДФ,экошпон, массив, шпон
ДВЕРИ-КУПЕ, АРКИ
ОКНА ПВХ
МЕБЕЛЬ
готовая и на заказ
горки от 350 руб. прихожие от 300 руб.
спальни от 550 руб. детские от 600 руб.
КУХНИ глянец, матовые, ЛДСП от 400 руб.
ШКАФЫ-КУПЕ
РАССРОЧКА до 2 лет, 0% предоплаты
Vel (044) 518-72-21 МТС (029) 283-75-22
ЧП "РайтЛайн" УНП 192583174

## Летась злавілі больш бяспраўнікаў за рулём

МАЛАДЗЕЧНА

У параўнанні з 2016 годам такіх злавілі на 22% больш.

За кіраванне транспартам без правоў прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. Як і за перадачу машыны бяспраўніку.

За першае такое правапарушэнне прадугледжаны штраф ад пяці да 20 базавых велічынь (122,50 – 490 рублёў). Пры паўторным парушэнні цягам года – штраф ад 20 да 50 базавых.

Часта бацькі самі "дапамагаюць" дзецям парушаць правілы, калі вучаць вадзіць аўто па-за дазволенымі месцамі. Вучыць кіраванню можна на пляцоўках ці аўтадромах, закрытых ад дарожнага руху.

Пры няправільным навучанні пакараюць і дзіця, і бацькоў.

**Вольга КАШКО, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Выканкам даў справаздачу, што гатовы да пасяўной. Але гэта няпраўда

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю пракантраляваў, ці гатовыя сельгаспрадпрыемствы да вясенняй пасяўной кампаніі.

На 23 сакавіка ў Вілейскім раёне былі наступныя недахопы:

– у "Новай Любаніі" няспраўныя два агрэгаты АПП-6Д, дыскатар для апрацоўкі глебы, культыватар, два раскідвальнікі арганічных угнаенняў.

– У Вілейскім райаграсэрвісе былі няспраўныя шэсць энерганасычаных трактароў, пасяўны агрэгат, машына тыпу "Раса", два камбінаваныя глебаапрацоўчыя агрэгаты.

Паводле аператыўнай справаздачы ўпраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкама, практычна ўся сельгастэхніка, патрэбная для пасяўной, адрамантаваная і гатовая "да бою". Але гэта не так.

Практычна ва ўсіх сельгаспрадпрыемствах рэгёна нізкая забяспечанасць, а часам і адсутнасць мінеральных угнаенняў і сродкаў засцярогі раслін.

З-за недахопу паліва ў асобных гаспадарках Вілейскага і Валожынскага раёнаў сельскагаспадарчыя работы не праводзілі.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Знайшлі парушэнні ў лясгасе

МАЛАДЗЕЧНА

Дзяржкантроль правёў планавую праверку лясгаса.

Падчас яе знайшлі парушэнні бухгалтарскага ўліку, заканадаўства аб закупках, дзяржстатыстыцы, у галіне будоўлі. Таксама наконт выкарыстоўвання дзяржаўных сродкаў з парушэннем бюджэтнага заканадаўства.

Па правапарушэннях далі ацэнку праваахоўныя органы і калегія Мінскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання.

Па выніках праверкі да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 11 службовых асоб. Аднавілі 230 тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў, скарыстаных з парушэннем заканадаўства.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Каб не мець праблем, наводзьце парадак

Сыходзіць снег, і адразу становяцца бачныя ўсе недахопы санітарнага ўтрымання тэрыторый.

Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі абследаваў тэрыторыі 412 арганізацый. Выдаў 159 рэкамендацый, як выправіць парушэнні.

Паводле "Правіл добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў", штогод вясной і восенню трэба ладзіць суботнікі і месячнікі па санітарнай прыборцы тэрыторый.

**Сяргей КАРАВАЙ, намеснік галоўнага доктара Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Кіналагічны цэнтр паўдзельнічаў у рэспубліканскай выставе сабак

СМАРГОНЬ

18 сакавіка каманда Смаргонскага кіналагічнага цэнтра паўдзельнічала ў рэспубліканскай выставе сабак усіх парод. З дзвюма нямецкімі, бельгійскай, сярэднеазіяцкай аўчаркамі і лабрадорам выступалі шэсць кінолагаў. Усе службовыя сабакі кіналагічнага цэнтра атрымалі высокія ацэнкі журы.

Сабакі прайшлі экспертызу і дапушчаныя да племяннога развядзення ў гадавальніку кіналагічнага цэнтра.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА



Пакупнікі і супрацоўнікі гандлёвага цэнтра вымушаны былі пакінуць будынак. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# "Падчас кіно дзверы не зачыняем"

## Ці можа ў Маладзечне паўтарыцца кемераўская трагедыя?

**Як у Маладзечне адрэагавалі на здарэнне ў расійскім гандлёвым цэнтры, дзе ў пажары загінула больш за 60 чалавек, мы распыталі ў прадстаўнікоў розных арганізацый.**

### Дзіцячы цэнтр

Не ўсе супрацоўнікі дзіцячага цэнтра "Джунглі" ведалі пра трагедыю ў Кемераве з навін. Кіраўнік склікаў у панядзелак тэрміновы сход, на якім расказаў пра здарэнне. Работнікі абнавілі веды аб супрацьпажарнай бяспецы, супрацоўнікі МНС правялі інструктаж, праверылі супрацьпажарныя рэсурсы – вогнетушыцелі, гідранты, замкі.

– Мы цудоўна разумеем, што да нас прыходзяць дзеці, і бяспека – на першым месцы, – расказала галоўны адміністратар **Кацярына Савіна**. – Кожны дзень цяпер пачынаем з тэхнікі бяспекі. У штаце ёсць спецыяльны чалавек, які сочыць за бяспекай. Калі да нас прыводзяць групу дзяцей, іх абавязкова павінны суправаджаць дарослыя, быць увесь час з імі.

### Кінатэатр

У маладзечанскім кінатэатры "Радзіма" зладзілі спецыяльныя інструктажы для работнікаў і ўчора, і сёння. Агульны супрацьпажарны інструктаж у кінатэатры ладзяць штомесяц. Прычым не толькі на словах, а каб кожны мог літаральна пальцам паказаць, што трэба націснуць у вогнетушыцелі.

Калі на сеанс прыходзяць дзіцячыя групы школьнікаў, выхаванцаў летнікаў ці садкоў, работнікі расказваюць, як трэба сябе паводзіць у зале.

– Дзверы падчас сеанса мы ніколі не зачыняем, – расказалі ў кінатэатры. – Гэта для нас закон, і так было заўсёды. Дзеці ў зале ніколі не застаюцца адны. Нават калі іх суправаджае толькі адзін дарослы, якому раптам спатрэбілася ў прыбіральню, у гэты час з дзецьмі ў зале кантралёр. Дзеці не застаюцца адны не тое што ў глядзельнай зале, але і ў фае.

### МНС

Пасля трагедыі ў Кемераве Маладзечанскі аддзел па надзвычайных сітуацыях правярае гандлёвыя цэнтры. У панядзелак праверылі "Е-сіці", у аўторак – "Спадарожнік".

Цягам тыдня інспектары будуць правяраць месцы масавага знаходжання людзей і праводзіць тлумачальную работу з адміністрацыяй. Сярод такіх арганізацый – "Модуль", "Тройка", комплекс па Янкі Купалы, 130.

Як паведамілі выратавальнікі, падчас праверак парушэнняў пакуль не знайшлі. Але выключна важна, каб супрацоўнікі цэнтраў маглі дакладна ведаць, як сябе паводзіць у надзвычайных сітуацыях і як ратаваць іншых. Работнікі цэнтраў павінны дакладна ведаць шляхі эвакуацыі, як карыстацца супрацьпажарнымі сродкамі.

### Каб папярэдзіць пажар

Маладзечанскі гарраўаддзел па надзвычайных сітуацыях нагадвае **асноўныя патрабаванні пажарнай бяспекі:**

- не загрувашчвайце праходы, выхады, дзверы на шляхах эвакуацыі, не стаўце выставачныя стэнды, гандлёвыя латкі, мэблю, кветкі, расліны і іншае, што памяншае эвакуацыйную шырыню і вышыню, змяняе кірунак адчынення дзвярэй, перашкаджае выхаду з будынкаў і памяшканняў. Нельга рабіць на шляхах эвакуацыі імітацыю дзвярэй, рабіць турнікеты і іншае, што перашкаджае бяспечнай эвакуацыі, размяшчаць пад маршамі эвакуацыйных лесвічных клетак гаручыя матэрыялы і рабіць розныя памяшканні;
- колькасць пярвічных сродкаў пажаратушэння павінна адпавядаць нарматыву, а іх спраўнасць перыядычна правярацца;
- сістэмы пажарнай аўтаматыкі (аўтаматычная пажарная сігналізацыя, сістэма абвесткі пры пажары і інш.) павінны знаходзіцца ў спраўным стане;
- кіраўнік і службовыя асобы суб'екта гаспадарання абавязаныя забяспечыць выкананне і кантроль выканання патрабаванняў пажарнай бяспекі на аб'екце.

Кожны работнік суб'екта гаспадарання абавязаны:

- ведаць патрабаванні пажарнай бяспекі, выконваць супрацьпажарны рэжым суб'екта гаспадарання;
- не рабіць учынкаў, якія могуць прывесці да ўзнікнення пажару;
- умець прымяняць пярвічныя сродкі пажаратушэння і сродкі самавыратавання;
- неадкладна прыступаць да эвакуацыі пры спрацоўванні сістэм абвесткі пра пажар і кіравання эвакуацыяй альбо пры паступленні іншай інфармацыі пра пажар;

**- пры пажары:**

а) неадкладна паведаміце па тэлефонах **101** ці **112** альбо непасрэдна ў пажарнае аварыйна-выратавальнае падраздзяленне адрас і месца пажару;

б) прыміце магчымыя меры па паведамленні людзям і іх эвакуацыі, а таксама тушэнні пажару пярвічнымі сродкамі пажаратушэння.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**



Рускі хорт Твіст і Жанна.



Дратхаар Торы.



Лайка Малыш з гаспадаром Андрэем.



Эстонскі хорт Герда і гаспадары Ігар і Ірына.

# Сабакі паскараюць рамонт, крадуць сыр са стала, а на паляванні дастануць з балота любую качку

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 24 сакавіка, жыхароў вёскі Цюрлі разбудзіў сабачы брэх. І хаця не каралеўскае паляванне праходзіла тут, а абласная выстава паляўнічых сабак, але палюбавацца на ганчакоў, лаек, хартоў можна было дакладна.**

Гаспадары прывезлі сваіх гадаванцаў з усёй Мінскай вобласці.

Пакуль сабакі знаёміліся адзін з адным, гаспадары хвалілі сваіх партнёраў і сяброў.

### Сярэднееўрапейская лайка Малыш

Першымі мы пазнаёміліся з чорна-белымі лайкамі. Сабака прыгожы, хвост абаранкам, а калі мы падышлі да яго бліжэй, скочыў на рукі і так усю размову з яго гаспадаром і правісеў, стоячы на дзвюх лапах.

– Сабаку два з паловай гады, кажа гаспадар сабакі Андрэй. – У сваім яшчэ адносна невялікім узросце Малыш мае дыпломы і медалі.

Малыш можа паляваць на мядзведзя і кабана.

– Паколькі ў Беларусі паляванне на мядзведзя забаронена, мы палюем на дзіка. Задача Малыша спыніць звера, які ўцякае. Але гэта не проста, таму Малыш можа проста ганяць дзіка па лесе.

Паляўнічы стаж у Андрэя – восем гадоў. Пакуль яму не падарылі шчанюка лайкі, у Андрэя быў ганчак.

– Вельмі спадабалася лайка, сабака вельмі ласкавы, самі бачыце. Цяпер сумуе, што хочацца бегаць, а вымушаны чакаць сваёй чаргі паказацца суддзям.

### Кантынентальны выжал дратхаар (легавая) Торы

Ідзём па выставе далей. У вочы нам глядзіць Антон Паўлавіч Чэхаў. Такі руды сабака з характэрнай барodкай.

– Гэта Торы, сабака мары, – кажа гаспадар дратхаара Сяргей.

Торы Сяргей называе сабакам мары, таму што гэта самы разумны сабака, які трапляўся Сяргею за 26 гадоў паляўнічага стажу.

– Задача Торы – прасачыць, адчуць птушку, стаць у стойку. Мы ходзім з Торы на курапатку, зайца, качку. Разумны ён, зараза. Па ўсіх паказчыках, у дратхаара розум 10 з 10, паслухмянасць 10 з 10.

Торы жыве ў кватэры. У яго ёсць усяго адна слабасць – не можа адмовіць сабе паляжаць на канапе.

– Тады сябе паводзіць ціха-ціха, ляжыць і не шавеліцца, а раптам гаспадары на заўважаць, – смяецца Сяргей.

У астатні час – Торы сяброўка і ахоўніца.

– Дзіця сына пакінулі ў калясцы, Торы яго ахоўваў. І калі раптам давядзецца бараніць кагосьці з блізкіх, Торы будзе змагацца да канца.

### Кантынентальны выжал курцхаар Бой

**Сяргей Жураў** працуе егерам у Вілейскім лясніцтве. І разумны сабака-кампаньён яму проста неабходны.

– Бой нарадзіўся 15 мая 2016 года пры дапамозе кесарава. Было шэсць шчанюкоў, мама, на жаль, загінула. Мы з жонкай з піпеткі выкормлівалі штучным малаком. Аднаго сабаку вырашылі пакінуць сабе.

Сяргей прызнаецца, што хацеў спачатку пакінуць дзяўчынку.

– Але яна такой чумой была. І шпалеры падрала, і іншай біды ў хаце нарабіла. А Бой быў спакойны. Адзіная забава – падаваць мячыкі нашаму маленькаму сыну. Пакінулі яго.

Гэта дома Бой гуляе з мячыкамі і душу прадасць за кавалак сыру. Сяргей расказвае, што Бой са стала нічога не сцягвае. Але перад сырам устаяць не можа. Абавязкова скрадзе з бутэрброда. А на паляванні сабака – "нячыстая сіла".

– Я егер, і Бой кожны дзень са мной. Можа паляваць і на птушку, і на казулю. Можа па паху і слядах крыві адсачыць, дзе паў звер. Да таго ж я не вельмі люблю па балотах лазіць, калі палю на качак, а Бой з задавальненнем робіць усю брудную работу.

А яшчэ Бой можа проста гадзінамі ляжаць пад вышкай, пакуль Сяргей назірае за лесам.

– Але калі бачыць ружжо, тут ужо яго не ўтрымаеш. Спружына!

### Эстонскі ганчак Герда

Для двухкаляровай рыжа-белай невялікай дзяўчынкі Герды – гэта другая выстава.

– На першай мы паказалі добрыя вынікі, цяпер хочам паказаць выдатныя, – кажуць гаспадары Герды **Ігар** і **Ірына**.

Гердзе год і дзевяць месяцаў. Яна палюе на зайца, лісіцу, можа спрабаваць на казулю, але ў тэорыі. Ігар на казуль не палюе.

– Мне вельмі падабаецца Герда. Падыходзіць мне па ўзросце, на паляванні робіць невялікі круг. Яна сапраўды, як эстонец, спачатку доўга думае, разважае, толькі потым бяжыць.

Дома ў Герды, як кажуць гаспадары, свае "прыколы" .

– Яна нам паскорыла рамонт, уся сям'я памяняла хатнія тапкі. Джынсы новыя пакаштавала на зуб. За што атрымала. Але характар добры, доўга на гаспадароў не крыўдзіцца.

Ігар расказвае, што Герду ведаюць усе дзеці ў двары і каты на дачы.

Сярод усіх парод сабак вылучалася тройца рускіх хартоў (борзых).

З адным з іх і яго гаспадыняй Жаннай мы і пазнаёміліся.

### Рускі хорт Твіст

Арыстакрата завуць Твіст.

– Гэта не вы гаспадар такога сабакі, гэта ён дазваляе вам быць з ім побач, – кажа жанчына.

І сапраўды, Твіст, калі хочаш яго пагладзіць, адсоўвае морду і падстаўляе бок. Маўляў, ты давай гладзь, але без фамільярнасцей.

– Што вы! Гэта такая грацыя, такая прыгажосць. А на паляванні яшчэ такая хуткасць!

Рускія харты палююць на зайца, лісіцу, ваўка.

– А яшчэ ў хартоў вельмі цікавая поўсць. Мяккая-мяккая, і пры гэтым сама чысціцца. Нават калі ён выкачаўся дзе, дастаткова даць абсохнуць. І ён зноў белены і мяккі.

На жаль, пагутарыць з усімі гаспадарамі і іх гадаванцамі было немагчыма. Ды і навошта гаварыць, калі сабакамі можна было проста любавацца. Але, пэўна, кожнаму гаспадару было што расказаць пра свайго улюбёнца, які, канешне ж, самы разумны, самы добры, самы хуткі, самы прыгожы, самы-самы.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**

# Смех – гэта адзіная зброя чалавека ў барацьбе і з ворагамі, і з сабой

МАЛАДЗЕЧНА

**Так лічыць паэт Юры Пацюпа, з якім мы напярэдадні Дня смеху пагутарылі пра тое, з чаго смяяліся беларусы 300 год таму і сёння. Чаму анекдоты хутка становяцца незразумелымі, з чаго беларус ніколі не засмяяецца і чаму беларусаў так смяшаць анекдоты пра азадак.**

Юры Пацюпа, акрамя таго, што паэт, з'яўляецца навуковым супрацоўнікам аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў НАН Беларусі, і гумар – гэта яго тэма. Юры калісьці пісаў пра рэтраспектыву беларускага гумару і з задавальненнем падзяліўся сваім досведам.

### Смех – ахавальны бар'ер для дыялектаў

– Натуральна, беларусы маглі смяяцца амаль з чаго заўгодна. У першую чаргу, канешне ж, з сябе. Аб'ектамі жартаў станавіліся паны, папы, суседзі. Пры чым, суседзі як з суседняй вёскі, так і з суседняй краіны.

Смех быў ахавальным бар'ерам для дыялетаў, лічыць Юры Пацюпа.

– Дык і мянушкі ж прыдумвалі тым, чыя манера гаварыць адрознівалася ад манеры жыхароў той ці іншай вёскі. Напрыклад, сакунамі называлі тых, хто прамаўляў словы на са: смяяўса.

Юры Пацюпа, навуковы супрацоўнік аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў НАН Беларусі.

Беларусаў можна назваць смяшлівым народам, кажа паэт. Пра што кажуць і шматлікія гумарыстычныя літаратурныя творы, першыя з якіх адносяцца да 17 стагоддзя.

– У першую чаргу варта назваць два ананімныя творы 17 стагоддзя. Гэта "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча".

"Прамову Мялешкі" раней лічылі творам сатырычным, таму што было меркаванне, што нейкі Мялешка сапраўды выступаў на сойме, дзе крытыкаваў новую моду, новыя з'явы. А потым высветлілася, што твор чыста парадыйны.

– У літаратуры ёсць паняцце "карнавальны смех". Гэта смех, які не высмейвае кагосьці, смех не скіраваны, а такі агульны. Як мастацтва клоўна. Клоўн жа не смяецца з кагосьці канкрэтна, клоўн стварае смешную сітуацыю. Вось такі "карнавальны смех" характэрны для беларускай, украінскай культуры. І захаваўся са старажытнасці і амаль да сённяшняга дня. "Прамова да Мялешкі" – гэта прыклад "карнавальнага" гумару. "Ліст да Абуховіча" – гэта больш ужо сатыра.

У 18 стагоддзі – "фішкай" становяцца "звярыныя гратэскі" .

– Іх параўноўваюць часам з байкамі, але нічога добрага з гэтага не выходзіць. Яны апісваюць жыццё чалавека ў двухсэнсоўным выглядзе. Прывяду вам прыклад:

*– Стукнула, грукнула ў лесе.*
*Што ж нам новага прынесе?*
*Упаў камарэц з дуба,*
*Шукаючы галуба.*
*Упаў на каранішча,*
*Стоўк сабе каленішча,*
*Да праляцела там муха*
*Да камаровага вуха.*
*Гукаючы яму:*
*– Мілы камару,*
*Жаль мне цябе непамалу,*
*Што для тога галуба*
*Упаў з тоўстага дуба.*

Ці вось такі верш:

Расказаў князь баравік, сежучы пад сасною, Всем грыбам ісці на вайну, всем ісці да бою. Адказаў яму казляк: – Я хоць добры юнак, Да самапала не маю, застануся ў гаю. Адказалі апенькі: – Мы грыбы слабенькі, Мы ў полі не зраслі, да пры дзераве скіслі. Адказалі ім рыжкі: – Мы не баравыя шышкі, Нашто ж нам шышак насіці, калі не ўмемося біці.... Адважыўся мухамор, да згінуў жа, як камар, Ляжыш, грыбе, без духа, што парваўся, як муха.

Прыпісваюцца гэтыя "звярыныя гратэскі" паэту **Дамініку Рудніцкаму**.

– Але я мяркую, што ён запісваў народныя вершыкі і гумарэскі. Таму што нават у сваіх кнігах ён не пазначаў такія творы як свае.

Яшчэ адзін прадстаўнік гумару 18 стагоддзя – пісьменнік **Караль Жэра**. Многія ведаюць яго кніжку "Торба смеху". У ёй пісьменнік піша кароткія анекдатычныя гісторыі ў прозе.

Прыклад такога анекдота:

*– У адну карчму заехаў на начлег пан Свінярскі і пачаў клікаць, каб яму адчынілі. Але яму гаспадар карчмы сказаў, што ўжо не было месца.*

*– Што ж тут, тузін д'яблаў, за паны спыніліся? – гнеўна пытае пан Свінярскі.*

*– Спыніліся тут паны Быкоўскі і Бараноўскі, – адказвае яму гаспадар.*

*– Але ж, Божа міласцівы, – запярэчыў пан Свінярскі, – няўжо ў такім слаўным і пекным хляве не знойдзецца месца і для Свінярскага?*

19 стагоддзе – гэта росквіт бурлескных твораў: "Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе". Усе мы памятаем смех аўтара, калі ён паказаў, як багіні мылі порткі багам у начоўках.

– У іншых творах 19 стагоддзя, напрыклад, "Імяніннае віншаванне", высмейваюцца рэчы зусім не смешныя. Такія радкі: "Смерць сядзела ў куточку і грызла сваю сарочку"...

Ёсць вельмі цікавыя моманты гумару і ў **Францішка Багушэвіча**. Гэта яго песні.

*Аж смяялася сарока,*
*Як з'арала баба гоні;*
*Заяц спудзіўся ад вока,*
*Ад гарбы падохлі коні.*
*Аж лісіцы забрахалі,*
*Як мужык грачыху рваў,*
*Воўкі полудзень забралі,*
*Як ён першы сноп вязаў.*
*Баба люльку кура ў хаце,*
*А мужык пярэ кашулі,*
*Конь пасецца на лапаце,*
*А на вербе растуць дулі.*
*Ой, на прыпечку ў балоце*
*Лавіў рыбку гаспадар,*
*А пры выгане на плоце*
*Хаваў грошы аліндар.*
*Ой, нявестка цешчу любе,*
*А сын бацьку шанаваў,*
*На сабакі заяц трубе,*
*Вінны доўг сам аддаваў!*

– Як бачыце, у гэтым вершы ўсё наадварот. Цікава, што падобны верш я бачыў ў ісландскага паэта 17 стагоддзя.

У 20 стагоддзі, да таго, як з'віўся Крапіва, славутым гумарыстам быў **Альберт Паўловіч**. Паўловіч пісаў гумарэскі, зарыфмаваныя народныя творы.

У аснове аднаго з такіх твораў народны анекдот пра бабулю, якая прыйшла ў царкву. І стала ставіць свечкі ўсім абразам. Калі засталіся дзве свечкі, успомніла, што не паставіла Святому Мікіту. На абразе Мікіта "быў заняты, збароў чорта, нечым яго пора" . Адну свечку паставіла святому, другую "лепіць" чорту. Бабы ў царкве пачалі сварыцца: "Што ж ты робіш, то ж нячыста сіла!" На што бабуля адказала: "Не судзіце людзі, з нас ніхто не знае добра, дзе па смерці будзе, ці ў небе, ці ў пекле скажуць пекаваці. Мець прыяцеля трэ ўсюды, каб нам мог спрыяці".

Гумар у літаратуры 20 стагоддзя і гумар сучасны варты, канешне, асобнай публікацыі. Тут можна назваць імёны Якуба Коласа, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча.

Сучасны гумар – пярэсты, разнастайны.

– Цяпер папулярныя пародыі, эпіграмы. Гумар стаў сцёбным, жорсткім. Ён высмейвае ўсё татальна, не пакідае нічога жывога. Гумар такі можна сустрэць і ў літаратуры, і ў анекдотах.

### Пра анекдоты папулярныя і не

– Сюжэты нават сучасных анекдотаў пра нейкіх зорак, палітыкаў можна знайсці яшчэ ў антычнасці.

Тэмы паўтараюцца, а вось героі анекдотаў мяняюцца вельмі хутка.

Мы прыгадалі з Юрасём Пацюпам анекдоты пра чукчу, Чапаева, Леніна.

– Нават анекдоты пра Вовачку цяпер зніклі. Канешне, мы ж ведаем, што пад тым Вовачкам меўся на ўвазе Ленін. Але ўсё ж. Незразумелыя сёння анекдоты пра новых рускіх. Затое, ёсць тэмы, якія набіраюць папулярнасць. Анекдоты пра немца і рускага, пра яўрэеў, пра бландзінак.

Яшчэ адна тэматыка анекдотаў, якія заўсёды карысталіся папулярнасцю, гэта анекдоты на сэксуальную тэматыку.

– Ведаеце, што цікава? Што толькі для традыцыйнай беларускай культуры характэрныя анекдоты на анальна-фекальную тэматыку. І хто яго ведае, чаму беларусам смешныя анекдоты пра ср**у і г****о!

– Гумар, смех, разважае Юры Пацюпа, – увогуле цікавая з'ява. Чаму, напрыклад, ні адна з жывых істот не можа смяяцца, а чалавек можа? Некаторыя навукоўцы, і я таксама за імі, лічаць, што смех і ўсмешка – першапачаткова была пагрозай ворагу. Было ж заўважана, што калі ўсё ідэальна, то тады няма месца смеху. Смяёмся мы там, дзе ёсць заганы, недахопы. Каштоўнасць смеху ў тым, што праз яго мы бачым сваю недасканаласць, праз смех мы даруем людзям іх недахопы, ставімся больш паблажліва. Не асуджаем яго, а разумеем. Калі мы смешныя, мы добрыя.

**Фота аўтара.**



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Як ладзілі фэст у Батурыне з нагоды ўтварэння БНР

ВІЛЕЙКА

**25 сакавіка 1918 года была ўтвораная Беларуская Народная Рэспубліка (БНР).**

Абвяшчэнне аб утварэнні БНР у Батурыне праводзілася ва ўрачыстых абставінах на Пятра, падчас фэсту каля касцёла. Фэсты ў Батурыне ладзілі кожны год на Пятра і Сёмуху. І кожны раз у святкаванні прымала ўдзел шмат людзей. Яны збіраліся з усёй акругі. Хто гандляваў, а хто набываў.

Асаблівa для дзяцей гэта свята было заўжды вельмі запамінальным, таму што толькі на гэтых святах бацькі маглі дазволіць ім наесціся прысмакаў. У іншыя дні года з-за галечы і жабрацтва ў сялянскіх сем'ях рацыён быў вельмі сціплы.

Пра незвычайны і вельмі значны для жыхароў фэст ужо новая ўлада, нямецкая, пачала абвяшчаць яшчэ з вясны. Запрашаліся ўсе, хто толькі мог сюды дабрацца. На прызначаны не зусім сонечны, але ціхі і цёплы чэрвеньскі дзень да Батурынскага касцёла пачалі з'язджацца і прыходзіць пешшу жыхары з навакольных вёсак. Усім не цярпелася даведацца, што ж новага, незвычайнага і каштоўнага для сябе яны змогуць пачуць на фэсце? Каля касцёла сабралася больш за тысячу чалавек. Усе парафіяне былі ў святочным убранні.

Кайзераўскія вайскоўцы ў парадных мундзірах утварылі ганаровую варту ўздоўж сцяжынкі перад касцёлам. Ад яго замест арганнай мелодыі разносілася нейкая іншая і вельмі моцная, прыхаджанам невядомая. Гэта іграў вайсковы нямецкі аркестр, запрошаны ўрадам БНР.

Пасля набажэнства перад сялянствам выступіў прадстаўнік маладога Беларускага ўрада. Ён падрабязна расказаў прысутным пра незалежнасць маладой беларускай краіны, пра яе перспектывы і ў сувязі з гэтым, які далейшы лёс чакае батурынцаў і ўвогуле ўсіх сялян з наваколля. З гэтага часу батурынская школа стала беларускамоўнай, а на самой школе быў замаляваны бел-чырвона-белы сцяг з пагоняй. Немцы такім зменам у краіне не пярэчылі, прытрымліваліся нейтралітэту. Але ў хуткім часе яны вымушаны былі адмовіцца ад Брэсцкага міру і пакінуць Беларусь. Зрабіць гэта іх падштурхнула камуністычная рэвалюцыя ў Германіі.

Батурына, як і ўсю Заходнюю Беларусь, пачало зноў ліхаманіць ад змены ўлады. Не паспелі немцы пакінуць Беларусь, як на яе вайной пайшла Польшча. Ужо да восені 1919 года польскаму войску ўдалося заваяваць вялікую частку Беларусі. Батурына таксама апынулася пад Польшчай. Але тагачасны кіраўнік Польшчы Юзаф Пілсудскі не разлічыў сілы свайго войска і ў хуткасці, вясной 1920 года, савецкая Расія, паправіўшы сваё палітычнае становішча, пачала адваёўваць тэрыторыі, занятыя польскім войскам. Урад БНР вымушаны быў з'ехаць з краіны на Захад. Батурына ў чарговы раз перайшло ва ўласнасць Расіі, але таксама ненадоўга.

17 жніўня 1920 года Чырвоная Армія пацярпела знішчальнае паражэнне пад Варшавай, і таму бальшавікі вымушаныя былі пайсці на перамовы з Польшчай. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе была падпісаная мірная дамова паміж Польшчай і савецкай Расіяй, у выніку палітычнага гандлю Беларусь зноў стала разменнай манетай. За мір бальшавікі з палякамі размежаваліся не сваёй тэрыторыяй, а Заходняй часткай Беларусі. Батурына зноў апынулася пад Польшчай, стаўшы памежжам з савецкай Расіяй. У вёсцы размясцілася польская стражніца, якая прастаяла тут амаль дваццацігоддзе.

У гэтым жа 1921 годзе ў Батурыне польскай уладай было забароненае ў школе навучанне на беларускай мове. У ёй былі адкрытыя чатыры польскія класы. І ўвогуле паўсюдна сярод насельніцтва пачалося апалячванне. Такія палітычныя змены былі не на карысць маладой Беларускай Народнай Рэспубліцы і яе ўрада. Яна страціла сваё існаванне. І толькі ажно праз 70 год у беларускай краіне пачаліся адраджэнні сваёй самастойнасці і незалежнасці.

Сёлета мы адзначаем стагоддзе першага зараджэння нашай незалежнасці. Але сённяшняя наша незалежнасць зусім пакуль што слабенькая, таму барацьба за яе яшчэ мае працяг на нявызначаны тэрмін. А на колькі – залежыць толькі ад нас саміх!

**Аляксандр РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**


Фота забяспечанае Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

Ля батурынскага касцёла падчас абвяшчэння БНР.

## Праверка кароў у Лебедзеве ў 1943 годзе: "Дзе малако за ўсё лета?"

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №10.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Прапаную чытачам матэрыял пра кірмаш у Лебедзеве ў 1943 годзе.**

Падышоўшы да першага ўладальніка каровы, вытрымаўшы невялікую паўзу, нямецкі афіцэр папрасіў увагі ў прысутных. Узяўшы ў рукі для азнаямлення першую кніжку, стаў яе гартаць, не здымаючы скураных пальчатак. Воддаль ад немца без хвалявання стаяў гаспадар каровы, будучы ўпэўненым, што гэту праверку ён пройдзе паспяхова, бо даведзеную норму для здачы малака ён выканаў. Нечакана афіцэр з лямантам запытаў сваю ахвяру:

– Дзе млека подзел за цало лято? (польск.)

Далей афіцэр размахнуўся і наводмаш пачаў біць мужчыну па руках рагацінай, а потым ударыў яго па галаве. Ад нечаканасці чалавек прысеў, прыкрыўшы галаву рукамі. Збіццё закончылася толькі тады, калі Міхаіл адбег на некалькі метраў. Дасталася і маладой жанчыне, якая знаходзілася побач. Што не спадабалася вайсковаму ветэрынару ў яе дакументах і стане яе каровы, прысутным было невядома. Трэцяму, пастаўленаму на агляд, гледзячы ў яго кніжку, немец сказаў:

– Цо так многа здаў млека? Цо воду носіў? Халера! (польск.)

І таксама некалькі разоў яго стукнуў. Прысутныя хутка зразумелі, што галоўным у гэтай акцыі было напужаць і паказаць, што такое нямецкі парадак і як трэба выконваць загады захопнікаў. Праверыўшы яшчэ некалькі чалавек, немец не вымавіў аніводнага слова. Напэўна, набіраўся сіл і злосці, каб зноў працягваць збіванне і запалохванне сабраных на праверку. Па чарзе, падышоўшы да старога чалавека, прыкладна такога ж росту, як і сам немец, афіцэр не стаў правяраць колькасць здадзенага малака па кніжцы, а паказаў рагацінай на брудное вымя каровы і стукнуў ёй яго па спіне адзін раз. Далей праверка не спынялася, але ўжо праходзіла больш павольна. Удары рагацінай і лаянка з вуснаў немца працягваліся, хоць ужо не з такім імпэтам, як гэта было напачатку "мерапрыемства". У тых, у каго былі дзве каровы, і адна з іх адпавядала нямецкім нормам, адну жывёліну па загадзе афіцэра вайскоўцы, што прыехалі з ім, грузілі на машыну. Дапамагалі ім у гэтай справе мясцовыя паліцаі.

Падышоў афіцэр да наступнай сваёй ахвяры, жыхара вёскі Лабачоўкі Лявона. Яму адразу ў ім штосьці не спадабалася, і немец, не праверыўшы яго дакументы, замахнуўся і хацеў нанесці ўдар яго па галаве.

У гэты момант Лявону ўдалося перахапіць рагаціну, а яго моцныя рукі затрымалі ўдар. Афіцэр натрэніраваным рукой імгненна схапіўся за кабуру пісталета, але не паспеў выцягнуць зброю. Адзін з двух паліцаяў, якія ішлі ўслед за афіцэрам, са злосцю, моцным голасам прамовіў:

– Не трэба біць! Гэта мой бацька!

Яго словы астудзілі жаданне афіцэра працягваць збіванне людзей і сталі кульмінацыяй праверкі. Паводзіны сына-паліцая не вельмі спадабаліся фашысту. Тым не менш ветэрынар стрымаўся і прамаўчаў, а ў хуткім часе наступіла развязка: было аб'яўлена, што праверка закончылася. Праўда, засталіся і тыя, каго яшчэ не паспелі праверыць. Але на гэты момант грузавая машына была цалкам запоўненая самымі лепшымі каровамі. Заданне, пастаўленае перад правяраючым, было паспяхова выкананае.

Многія былі ўзрушаныя развіццём падзей. Ніхто не чакаў такіх паводзін нямецкага правяраючага. Большасць жыхароў Лебедзева, якія жылі вакол рынку, не спяшаліся на праверку са сваёй жывёлай. Цяпер, убачыўшы гэту абразлівую акцыю немцаў, яны былі рады таму, што ўбачаныя імі здзекі абышлі іх бокам.

Мінула шмат часу, але лебедзеўцы доўга памяталі гэту праверку. Ужо ў савецкія часы, здаючы малако ад сваіх кароў у калгас, пры сустрэчы знаёмых, якія прымалі ўдзел у той нямецкай акцыі, некаторыя ў якасці ўспаміну сумна паўтаралі словы фашыста: "Дзе млека подзел за цало лято?"

**Антон АПАНАСЕВІЧ,**
**Лебедзева.**

● КАЛЯНДАР

**30 САКАВІКА**

**1689.** Пакараны смерцю **Казімер Лышчынскі**, "беларускі Джардна Бруна", філосаф-матэрыяліст Рэчы Паспалітай, педагог і грамадскі дзеяч, аўтар трактата "Аб неіснаванні бога". Быў абвінавачаны ў атэізме і згодна з прысудам пакараны смерцю. Рукапіс трактата быў спалены: на сённяшні дзень вядома толькі пяць невялікіх фрагментаў, знойдзеных у 1957 годзе. Нарадзіўся 4 сакавіка 1634 года.

**31 САКАВІКА**

**1938.** У Сібіры ў савецкім канцлагеры расстраляны **Фелікс Купцэвіч,** пісьменнік, паэт, крытык, перакладчык. Нарадзіўся ў 1900 годзе ў Гродне. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

**1 КРАСАВІКА**

**Вялікдзень** (па каляндары каталіцкай канфесіі).

**Дзень смеху.**

**2 КРАСАВІКА**

**1995**. Памёр **Пімен Панчанка**, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**4 КРАСАВІКА**

**1863.** 145 гадоў назад у **бai загінуў Юльян Бакшанскі**, удзельнік вызваленчага руху і паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі і Літве. Нарадзіўся ў 1824 годзе ў маёнтку Тупальшчына, цяпер Смаргонскі раён. У 1847 годзе зрабіў спробу падняць паўстанне смаргонскіх сялян, заклікаў аб'яднацца з гарадской беднатой і салдатамі і выступіць супраць памешчыкаў, чыноўнікаў і афіцэраў. Гэты план не здзейсніўся, ён быў арыштаваны і асуджаны да 12 гадоў катаргі. У 1863 годзе арганізаваў і ўзначаліў атрад паўстанцаў, які дзейнічаў на тэрыторыі Маладзечаншчыны і Вілейшчыны, і ў сутычцы з урадавымі войскамі загінуў. Пахаваны ў в. Плябань, Маладзечанскі раён. Пасля паўстання на Маладзечаншчыне разгарнулася актыўная палітыка русіфікацыі краю. У 1944 годзе, у 105-гадовым узросце, памёр апошні ўдзельнік гэтага паўстання **Ігнат Абрамовіч**, пахаваны ў мястэчку Краснае.

**5 КРАСАВІКА**

**225** гадоў з дня нараджэння Канстанціна Радзівіла (1793 – 1869), палітычнага дзеяча, мецэната, аднаго з першых беларускіх фалькларыстаў.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1943) Мар'яна Дуксы , беларуская паэтэса.

**1990.** Вярхоўны Савет Беларусі абвясціў 26 красавіка Днём Чарнобыльскай трагедыі.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Маю права

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# “Хачу нізкіх бардзюраў і нармальнага асфальту, каб ганяць на вазку”

## У рэдакцыі “РГ” зладзілі круглы стол па правах інвалідаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Перад тым, як трапіць на круглы стол, нашы ўдзельнікі пыталіся, ці ёсць у будынку ліфт і пандусы, колькі приступак на лесвіцы. 26 сакавіка ў рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты” зладзілі круглы стол на тэму “Правы людзей з інваліднасцю”.**

На пытанні журналіста **Зоі Хруцкай** адказалі невідушчы выкладчык маладзечанскага музкаледжа **Аляксандр Еўдакімаў**, прадстаўніца арганізацыі “Энва” АА “БелТІЗ” **Таццяна Саўчанка**, мамы, якія гадуюць дзяцей з асаблівасцямі **Таццяна Банковіч**, **Таццяна Высоцкая**, **Святлана Аскірка**, псіхолаг тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання **Алена Камісарук** і дзяўчынка ў вазку **Віялета Банковіч.**

**Зоя Хруцкая:** З якімі самымі балючымі праблемамі сутыкаюцца людзі з асаблівасцямі і іх родныя?

**Аляксандр Еўдакімаў:** Чалавека з асаблівасцямі ў грамадстве ўспрымаюць не такім, як усе. Хай у цябе будзе самы лепшы дыплом, але калі ты прыходзіш уладкоўвацца на працу, то табе, хутчэй за ўсё, адмовяць. Па тэлефоне сустрэчу прызначаць, а калі пабачаць, зададуць пытанне: “А як жа вы такі будзеце працаваць?” Чалавека з інваліднасцю ўспрымаюць як недачалавека. Часткова тут вінаватыя мы самі, часткова – сістэма. Памятаеце, як у савецкі час казалі, што інвалідаў у нас няма, і людзей з асаблівасцямі рознымі спосабамі хавалі ад грамадства. Ёсць праблемы і з безбар’ернасцю горада. Добра, што вы мяне сёння на машыне прывезлі. Пяшком я дабіраўся б сюды гадзіны дзве і вітаўся б з кожным слупам.

**Святлана Аскірка:** Галоўная праблема – успрыманне інвалідаў і комплексы. Калі мы сутыкнуліся з інваліднасцю сына, то я была больш закамплексаваная, чым само дзіця. Яшчэ для 16-гадовага сына Рамана, які ходзіць на мыліцах, не хапае безбар’ернага асяроддзя. Сын займаецца фехтаваннем, нам цяжка дабрацца на заняткі. Пандусы часта стаяць проста дзеля выгляду. Як, скажыце, чалавек з інваліднасцю можа папрасіць дапамогі ў райвыканкаме, калі ён не даедзе туды?

**Таццяна Банковіч:** Вельмі нязручная праблема для грамадства – гэта самі людзі з інваліднасцю. З-за адсутнасці безбар’ернага асяроддзя мы не можам наведваць школу. Неяк Віялета вельмі хацела займацца музыкай – таксама не змагла. Музычная школа не абсталяваная для дзяцей з асаблівасцямі. У горадзе бардзюры – па сем сантыметраў. А інвалідны электравазок бярэ да пяці. Цяпер мы будуем дом. Трэба ўвесь час кантраляваць будаўнікоў. Напрыклад, нам зрабілі такія дзверы, праз якія не праедзе вазок. Пасля перараблялі.

**Таццяна Высоцкая:** Мая дачка Даша цягнецца да ведаў, да зносін са звычайнымі дзецьмі. Але я не магу аддаць яе ў школу. Як уяўлю, якія там лесвіцы! Трэба, каб побач з нашымі дзецьмі ў школе ўвесь час быў асістэнт. Але, відаць, няма такой магчымасці. Заняткі дома – гэта зусім не тое. У садок мы хадзілі. Там дзеці ўспрымалі дзяўчынку добра. Выхавальнікі – спачатку з асцярогай. Добра, што ў Маладзечне ёсць цэнтр карэкцыйнага навучання і развіцця. Але Даша ўжо засвоіла патрэбную праграму, настаўніца займаецца з ёй па іншай. А ў школу мы не можам пайсці, бо ў горадзе няма ніводнай, якая б была абсталяваная пад патрэбы нашых дзяцей. Хай бы ў Маладзечне адну школу пераабсталявалі для нас, тады б усе дзеці з асаблівасцямі змаглі туды хадзіць.

**Святлана Аскірка:** Але ці аддавалі б бацькі туды звычайных дзяцей. Напэўна, не ўсе захацелі б, каб з іх дзецьмі вучыліся нашы. Падчас рэабілітацыі пасля аперацыі сын хадзіў у ірландскую школу. Вучыўся са звычайнымі дзецьмі і паспяваў лепш, чым многія з іх. У школе ўвесь час побач з Раманам была дзяўчына-асістэнт.

### У летнік – за грошы горада

**Віялета Банковіч:** Мае сяброўкі па-рознаму ўспрымаюць мяне. Адна – як звычайнага чалавека, а другая можа сказаць: “Як мы з такой пойдзем некуды? Ты ж на вазку”. Хаця я вельмі актыўная. Люблю спяваць і маляваць. Стараюся паказаць іншым людзям, што я магу.

> **Таццяна Банковіч: Дзеці ўспрымаюць Віялету, як роўную. Калі я прыводжу яе ў школу на мерапрыемства, аднагодкі бягуць абдымацца. А ў дарослых ёсць нейкія абмежаванні. Віялета шмат вучыцца. Нядаўна дыстанцыйна скончыла курсы па фоташопе пры інстытуце. Цяпер мае дыплом. Але ёй не хапае зносін з аднагодкамі.**

**Віялета Банковіч:** Так, ёсць зносіны онлайн. Але гэта не вельмі цікава.

**Аляксандр Еўдакімаў:** А для зносін трэба адчыніць антыкафэ па нашай тэматыцы.

**Святлана Аскірка:** Гэта вельмі складана. Мы, мамы дзяцей з асаблівасцямі, прадстаўляем арганізацыю “Надзея”. Колькі ні шукалі памяшкання, колькі ні звярталіся да ўладаў, адказ адзін – свабодных памяшканняў няма. Няўжо горад не можа знайсці нешта для нас?

**Таццяна Саўчанка:** Тое, як цяпер успрымаюць людзей з інваліднасцю, называецца модным словам “дыскрымінацыя”. Яна пачынаецца ўжо тады, калі малады чалавек заканчвае школу і прыходзіць на МРЭК. Няма індывідуальнага падыходу да кожнага чалавека, карыстаюцца кнігамі, распрацаванымі ў савецкі час. Адно добра, што цяпер там пішуць толькі спецыяльнасці, па якіх нельга працаваць. Раней пералічваліся толькі магчымыя прафесіі.

**Аляксандр Еўдакімаў:** Чалавеку з асаблівасцямі трэба самому ўкласціся ў сваё працаўладкаванне. Набыць камп’ютар, абсталяванне, навучыцца. А з МРЭК трэба змагацца. Былі ж невідушчыя матэматыкі.

**Алена Камісарук:** Бацькі, якія сёння тут, прайшлі самую небяспечную мяжу. Яны могуць спакойна гаварыць пра інваліднасць сваіх дзяцей. Некаторыя бацькі, на жаль, застаюцца ў стане гора. Ні яны, ні іх дзеці не хочуць зносін. Віялета – малайчына, але малайчына – і мама. Яна зрабіла стаўку на здольнасці дзіцяці. Бацькам дзяцей з інваліднасцю трэба быць гатовымі да таго, што на іх будуць глядзець, задаваць адны і тыя ж пытанні. Я арганізавала клуб бацькоў, што выхоўваюць дзяцей-інвалідаў. Там больш за 30 сямей. І да такога стану, як у гэтых мамаў, ім пакуль яшчэ далёка. Хочацца закрыцца і не паказваць нікому сваё дзіця, але гэта не лепшы варыянт. Тым больш, улічыце, што калі на вас звяртаюць увагу іншыя дзеці, яны гэта робяць не для таго, каб пашкадаваць. Проста ім цікава. Самае галоўнае – старацца не дапускаць ніякай жаласці да сябе. І не трэба дапамагаць чалавеку з асаблівасцямі, які не просіць вас пра гэта.



Таццяна Высоцкая.



Алена Камісарук.



Аляксандр Еўдакімаў.



Таццяна Саўчанка.



Таццяна Банковіч.



Святлана Аскірка.

**Таццяна Банковіч:** Сапраўды, я балюча ўспрымала тое, што на Віялету ў вазку глядзяць, тыкаюць пальцам, асабліва ў Маладзечне. У Мінску няма такога. А цяпер я не звяртаю ўвагі. Такое ўспрыманне дзяцей з асаблівасцямі можа быць ад таго, што ў горадзе мала праводзяць інклюзіўных мерапрыемстваў: сумесных для звычайных дзяцей і для дзяцей з асаблівасцямі.

**Зоя Хруцкая:** Якія праблемы людзей з інваліднасцю вырашыць лягчэй за іншыя?

**Аляксандр Еўдакімаў:** Я магу сказаць пра найскладанейшую – пераадолець свядомасць. А паставіць пандус у параўнанні з першай праблемай – найлягчэй. Або правесці мерапрыемства на адкрытым паветры.

**Святлана Аскірка:** Любую праблему прасцей вырашыць, калі мясцовыя ўлады – на роўных з людзьмі. У Смаргоні ёсць падобная да нашай арганізацыя “Агеньчык надзеі”. Улады шмат робяць для іх, падтрымліваюць. За грошы з бюджэту горада дзіця можа адпачыць у летніку. Чаму ў Смаргоні можна, а ў нас нельга?

**Таццяна Банковіч:** А Віялета на два тыдні ездзіла адна ў летнік у Стаўбцоўскім раёне.

**Віялета Банковіч:** Так. У лагеры пяць



Фота забяспечана Таццянай БАНКОВІЧ.

У Віялеты Банковіч шмат захапленняў. Сярод іх спевы і маляванне анімацыйных персанажаў.

змен: адна для звычайных дзяцей, чатыры – для дзяцей з асаблівасцямі. Кожны дзень там мерапрыемствы, курсы, паездкі, дыскатэкі. Для кожнага дзіцяці ёсць валанцёр. Часцей, гэта маладыя людзі з замежжа. У мяне была валанцёр з Лондана. Таму я і англійскую мову падцягнула.

**Святлана Аскірка:** Бачыце, чамусьці валанцёрская дзейнасць больш атрымліваецца ў замежнікаў, хаця і нашых студэнтаў у педагагічных ВНУ павінны вучыць зносінам з асаблівымі дзецьмі.

## Па некаторых вуліцах Маладзечна і відушчы не пройдзе

**Зоя Хруцкая:** Штогод БелТІЗ піша ліст з просьбамі да мясцовых уладаў. Колькі працэнтаў з гэтых просьбаў выканалі?

**Таццяна Саўчанка:** Гледзячы, што мы просім. Маладзечна стала адным з узорных гарадоў, дзе праводзяць акцыю “Чалавек з белым кійком”. Наш горад – рэкардсмен па агучаных святлафорах. Мы ўсё яшчэ кажам пра тое, каб ярка фарбавалі першую і апошнюю прыступку на лесвіцах, але гэта даўно не ноу-хау. Цяпер для невідушчых людзей у гарадах кладуць тактыльную плітку. Яна дапамагае інвалідам па зроку арыентавацца ў прасторы. Але калі мы звярнуліся з такой просьбай да ўладаў, нам адказалі: горад добраўпарадкаваны да “Дажынак”. Хто вам будзе плітку здымаць?

**Аляксандр Еўдакімаў:** Значыць, мы самі павінны трымаць руку на пульсе. І калі даведаемся, што недзе рамантуюць тратуар, падказаць уладам, што нам патрэбная такая плітка. Вельмі спадзяюся, што пасля гэтай публікацыі заплануюць рамонт дарогі на вуліцы Забейды-Суміцкага. Там і відушчы не заўсёды пройдзе, каб ногі не паламаць.

## Пра безбар'ернае асяроддзе трэба клапаціцца падчас праектавання

**Таццяна Саўчанка:** Пра безбар'ернае асяроддзе трэба клапаціцца на ўзроўні праектаў, бо перарабляць заўсёды даражэй і цяжэй, чым будаваць новае. А ў Маладзечне кажуць: праекты распрацоўваюць у Мінску. Калі мы хочам паставіць для невідушчых нейкую агароджу, сутыкаемся з тым, што праект каштуе ў тры разы даражэй, чым сама агароджа.

**Аляксандр Еўдакімаў:** Так. Бюракратыя – гэта вялікая праблема дзяржавы. Людзей з інваліднасцю дзяржава павінна забяспечваць тэхнічнымі сродкамі рэабілітацыі. У кагосьці закупляюць абсталяванне, кормяць чыноўнікаў, а ў выніку рэчы, якія атрымлівае чалавек з інваліднасцю, яму зусім і не трэба. Ці не лепш было б нам самім выдзяліць грошы, каб набыць тое, што сапраўды неабходна.

**Таццяна Банковіч:** Так. Нам выдзелілі парэнчы ў прыбіральню для Віялеты. Патрацілі грошы. А парэнчы зусім непатрэбныя. Віялета не стаіць. Хай бы мне далі тыя грошы, я набыла б дзіцяці неабходныя прэпараты для трэніроўкі дыхання.

**Таццяна Высоцкая:** Бясплатна даюць толькі беларускія лекі, а нам трэба імпартныя.

**Святлана Аскірка:** Так. Ёсць пытанні і да забеспячэння медыкаментамі. Некаторых медыцынскіх расходных матэрыялаў нам трэба ў дзень восем штук, а дзяржава дае адзін.

## Улады павінны нас слухаць і чуць

**Зоя Хруцкая:** Хто і як павінны змагацца за безбар'ернае асяроддзе?

**Святлана Аскірка:** Інваліды, бацькі дзяцей-інвалідаў, улады.

**Таццяна Банковіч:** Мы самі. Але ўлады нас павінны слухаць і чуць.

**Таццяна Высоцкая:** Без нас – ніяк.

**Таццяна Саўчанка:** Безбар'ерным асяроддзем павінны займацца ўсе. Мы ведаем свае праблемы, але не ведаем праблем людзей з інваліднасцю апорна-рухальнага апарату. Трэба ствараць спецыяльную камісію пры пабудове аб'ектаў. Але калі нешта будуе прыватнік, у “Камунальніку” кажуць: мы не можам яму нічога загадаць.

**Аляксандр Еўдакімаў:** Трэба, каб быў орган, які б караў забудоўшчыкаў, што не выконваюць патрабаванні для стварэння безбар'ернага асяроддзя.

**Зоя Хруцкая:** Якія мінімальныя змены павінны адбыцца, каб чалавек з асаблівасцямі адчуваў сябе лепш у грамадстве?

**Таццяна Высоцкая:** Грамадства павінна прыняць гэтых людзей.

**Таццяна Банковіч:** Зрабіць онлайн карту або мабільны дадатак, каб чалавек з асаблівасцямі мог паглядзець, у якую ўстанову можна яму трапіць. Дзе ёсць зручныя пандусы, уваходы, прыбіральні.

**Віялета Банковіч:** Менш бардзюраў і нармальны асфальт, каб можна было ганяць на вазку.

**Алена Камісарук:** Гэта мара ўсіх кіроўцаў, мамаў з калясками і сталых людзей.

**Святлана Аскірка:** Памяшканне! Каб мы маглі сабрацца з дзецьмі, пагаварыць, нешта цікавае правесці для іх. І абавязкова – сацыяльнае таксі. Для нас гэта важна. Муж не заўсёды можа адвезці Рому на фехтаванне. Хутка сын скончыць цэнтр карэкцыйнага навучання, дзе ёсць падвоз. Трэба будзе вазіць яго ў цэнтр тэрытарыяльнага абслугоўвання. Там падвозу няма. Як вазіць?

**Таццяна Саўчанка:** Мы таксама пыталіся пра сацыяльнае таксі. Адказ – няма грошай. І пытанне: Ці ўпэўненыя вы, што яно акупіцца?

**Аляксандр Еўдакімаў:** Калі ў 2012 годзе я з'язджаў з Масквы, там было такое таксі. Аднак запісвацца трэба было за месяц. А мінімальныя змены павінны быць такія: жыхары горада глядзяць на чалавека з асаблівасцямі як на звычайнага, як на такога, што адрозніваецца іншым колерам валасоў. Тады і з бардзюрамі будзе лягчэй. І другое – развітая інфраструктура.

**Таццяна Высоцкая:** Памяшканне вельмі патрэбнае. Мы хацелі зрабіць інклюзіўны тэатр для нашых дзяцей, знайшліся спецыялісты. А памяшканне – не.

**Зоя Хруцкая:** Як пераадолець псіхалагічныя праблемы?

**Алена Камісарук:** Калі бацькі сутыкнуліся з праблемай інваліднасці дзіцяці, лепш на некаторы час пакінуць іх у спакоі, пасля паступова ўключаць у сацыяльнае жыццё. Заўсёды дапамагаюць зносіны. Разам прасцей знайсці выйсце. Хаця, уступаючы ў клуб, людзі часам чакаюць грошай і падарункаў, не разумеючы, што галоўнае – зносіны і падтрымка. Лічу, што праблемы людзей з інваліднасцю да таго часу будуць вырашацца марудна, пакуль у дэпутатах, у кіруючых колах не будзе чалавека, які з гэтай праблемай сутыкнуўся асабіста.

**Аляксандр Еўдакімаў:** Трэба зразумець, што ты можаш рабіць лепш за астатніх. Калі ў 10-гадовым узросце я зразумеў, што губляю зрок, пачаў думаць пра тое, як змагу зарабляць на жыццё. Абраў музыку.

**Алена Камісарук:** Трэба памятаць, што калі губляецца зрок, абвастраюцца іншыя адчуванні. І гэтым трэба карыстацца.

## Віялета: Мама цягае мяне на плячах

**Зоя Хруцкая:** Што вы робіце, каб пераадолець дрэнны настрой?

**Віялета Банковіч:** Кантактую з сябрамі. Але мы жывём на трэцім паверсе. Ліфта няма. Таму, каб мне трапіць да сяброўкі, мама зносіць мяне на плячах па прыступках з нашай кватэры, а пасля такім жа чынам заносіць да сяброўкі.

**Таццяна Банковіч:** У Віялеты – шмат актыўнасцей. Апошняя наша задума – зняць сацыяльны ролік пра дзяцей з асаблівасцямі.

**Зоя Хруцкая:** Як дапамагае інвалідам па зроку БелТІЗ?

**Таццяна Саўчанка:** Псіхалагічна, праводзім рэабілітацыю, навучаем. У нас ёсць шашкі, шахматы, настольны тэніс. Літаратуры па Брайлю выдаецца мала. У Беларусі не змаглі знайсці дапаможніка для інваліда па зроку, што хацеў навучыцца іграць на гітары. У плане працы людзям не варта абмяжоўваць БелТІЗам. Калісьці былі тысячы супрацоўнікаў, цяпер дзвесце чалавек.

**Зоя Хруцкая:** Што зробіць грамадства не такім абыякавым?

**Святлана Аскірка:** Больш інклюзіўных мерапрыемстваў.

**Таццяна Высоцкая:** Больш дабрыні і ўзаемадапамогі.

**Таццяна Банковіч:** Інклюзія і інфарматызацыя.

**Віялета Банковіч:** Узаемаразуменне, зносіны з блізкімі.

**Таццяна Саўчанка:** Трэба часцей збірацца разам прадстаўнікам розных грамадскіх аб'яднанняў, разам нешта вырашаць.

**Аляксандр Еўдакімаў:** Трэба памятаць, што чалавек чалавеку – не воўк. Больш раўнапраўных зносін.

**Алена Камісарук:** Дабрыня да ўсіх, не толькі да інвалідаў.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 9)

## Як з пешкі зрабіць ферзя

**Сёння мы навучымся рабіць шахматны фокус – пераўтвараць адну фігуру ў іншую.**

Калі пешка даходзіць да канца дошкі, то аўтаматычна гэтых ходам чароўным чынам пераўтвараецца ў любую фігуру.



Разыграйце тэматычны турнір "Пешачны эндшпіль". Як мы ўжо ведаем, эндшпіль – гэта заканчэнне. Перамагае той, хто першы правядзе любую пешку ў ферзі.

Варыянты пачатковай расстаноўкі:



### Не прапусціце конкурс малюнкаў!

Віталь Качаткоў рыхтуе да друку кнігу-дапаможнік пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Дасылайце любыя дзіцячым малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: 222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". А можна сфатаграфаваць і даслаць на regionnews@rh.by.

Малявацъ можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тыя, што размесціць пасля ў кніжцы.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# У футбольнай камандзе "Маладзечна-ДЮСШ-4" – новы трэнер

МАЛАДЗЕЧНА

**Чацверты ад пачатку сезона, але зноў без загада.**

Пра тое, што маладзечанскім футбалістам прадставілі новага трэнера, расказаў **Мікалай Шрымф**, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

– На трэніроўцы 26 сакавіка хлопцам прадстаўлены трэнер **Аляксей Вергіенка**. Цяпер ён працуе, але загад на прызначэнне яго галоўным трэнерам пакуль не падпісаны.

Аляксей Міхайлавіч Вергіенка, піша "Прессбол" – сын вядомага галкіпера, чэмпіёна СССР 1982 года Міхаіла Вергіенкі. Аляксей у якасці футбаліста большую частку кар'еры правёў у другой камандзе мінскага "Дынама". За асноўную каманду ён выступаў толькі ў 1999 годзе. Некалькі гадоў Аляксей Вергіенка гуляў у ніжэйшых нямецкіх дывізіёнах. У 1997 годзе гуляў у складзе ФК "Маладзечна".

Пасля завяршэння кар'еры гульца увайшоў у трэнерскі штаб салігорскага "Шахцёра". У 2009 годзе некаторы час узначальваў каманду. Затым працаваў на пасадзе галоўнага трэнера юнацкай зборнай. У 2012 годзе ўзначаліў моладзевую зборную. Апошнім месцам працы Аляксея Вергіенкі былі "Баранавічы" (Д2), якія пад яго кіраўніцтвам фінішавалі на 12-м месцы ў першай лізе ў сезоне-2017.

Мікалай Шрымф сказаў, што дапамагае Аляксею Вергіенку **Сяргей Дарахoвіч**, галоўны трэнер "Малдзечна-ДЮСШ-4" у мінулым сезоне.

– **Валерыю Вятрову** таксама прапанавалі месца працы ў камандзе "Маладзечна-ДЮСШ-4".

– А што з папярэднім трэнерам **Міхаілам Макоўскім**?

– А што з Макоўскім? Хто вам сказаў, што ён увогуле меў дачыненне да каманды?

**Наталля ТУР.**



Новы трэнер ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" Аляксей Вергіенка.

## Кубак Еўропы па паўэрліфтынгу прайшоў у Ашмянах

АШМЯНЫ

Ад 23 да 25 сакавіка ў Ашмянах праходзіў чэмпіянат Еўропы па класічным паўэрліфтынгу і жыме штангі лежачы.

У Ашмяны прыехалі прадстаўнікі дзевяці краін Еўропы: Бельгіі, Польшчы, Літвы, Арменіі, Расіі, Іспаніі, Украіны, Грузіі і Беларусі. На працягу трох дзён на ашмянскі памост выйшлі 55 спартсменаў.

У вазе да 52 кг сярод жанчын першае месца заняла **Надзея Цярэшка**. Золата прынесла беларускай камандзе яшчэ адна выхаванка **Міхаіла Станкевіча – Кацярына Мядзвецкая**, якая выступала ў вазе да 63 кг. У **Ілоны Антоненкі** ў гэтай вазе – бронза. У скарбонку зборнай Беларусі ў вагавой катэгорыі да 57 кг золата дадала прадстаўніца Мазыра **Наталля Прымачэнка**.

Гімн гучаў у гонар **Аляксандра Носава, Андрэя Грыцаля, Алега Ермака, Міхаіла Гасюка**. У вагавой катэгорыі да 83 кг два беларускія спартсмены падняліся на п'едэстал гонару. Выхаванец ашмянскай школы паўэрліфтынгу **Сяргей Цыбульскі** стаў трэцім, **Павел Ясон** прынёс камандзе золата.

Увага заўзятараў была прыкаваная да выступлення спартсменаў у вагавой катэгорыі да 105 кг. Менавіта ў гэтай вазе быў заяўлены губернатар Віцебскай вобласці **Мікалай Шарстнёў**. Ён заваяваў бронзавы медаль, саступіўшы супернікам з Грузіі і Арменіі.

Падрабязней пра тое, як праходзіла свята спорту і сілы, чытайце ў "Рэгіянальная газеце" ў наступным нумары.

**Аддзел інфармацыі.**

# "За свои слова надо иногда и ответить"

## Футбаліст Макоўскі вінаваціць журналістку ў тым, што яна "забіла" футбол у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Футбольны клуб "Маладзечна-ДЮСШ-4" ад пачатку сезона час ад часу аказваецца ў цэнтры абмеркаванняў і нават скандалаў.

Пачалося ўся 18 лютага, калі трэнер **Міхаіл Макоўскі** сабраў прэс-канферэнцыю, падчас якой не змог адказаць ні на адно пытанне заўзятараў, фанатаў, журналіста. Пасля высветлілася, што яго на пасаду трэнера ніхто і не прызначаў.

Першую трэніроўку з камандай правёў **Уладзімір Макоўскі**, які футбалістам прадставіўся галоўным трэнерам, аднак ужо ўвечары з'явілася інфармацыя, што галоўны трэнер – **Валер Вятроў**.

Аднак 26 сакавіка была інфармацыя пра тое, што на пасаду трэнера ўвогуле запрошаны **Аляксей Вергіенка**.







Такія ракіроўкі ў камандзе выклікалі абурэнне Міхаіла Макоўскага. І ён абрынуў сваё незадавальненне на журналістку **Наталлю Тур**.

У паведамленнях у "Фэйсбуку" Міхаіл абвінавáціў журналістку ў тым, што яна "забіла" футбол. І што калі ён вернецца ў каманду, гэта будзе "жорстка".

І ў апошнім паведамленні Міхаіл Макоўскі прызывае журналістку рыхтавацца да бою.

Да бою з кім? І за якія словы павінна адказаць журналістка, Міхаіл Макоўскі не ўдакладніў.

**Аддзел інфармацыі**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Фарба, якая пад дзеяннем кіслот набывае чырвоны колер, а пад дзеяннем шчолачаў – сіні.
3. Адчуванне, разуменне прыгожага; здольнасць даваць эстэтычную ацэнку.
4. Караткевіч: “Калі паміраюць … – застаюцца свінцовыя воды І свісцячая песня пяскоў у расколінах скал. Калі памірае каханне… Але каханне не памірае”.
6. Адкрытае пустое месца ў суцэльным; дзірка, шчыліна, праход, пройма.
8. Гэты аранжавы плод ва Украіне – частка сватаўства. Яго давалі незайздросным жаніхам.
10. Герб гэтага горада – сярэбраны вершнік, што трымае над галавой меч і шчыт з шасціканцовым крыжам. Уверсе – залатая гарадская карона з трыма зубцамі.
11. Сукупнасць правіл пабудовы слова і сказа.
13. Кароткае падарожжа.
15. Гэта адна з самых старажытных кветак на планеце. Лісткі і кветкі пакрытыя спецыяльным рэчывам, што адштурхоўвае любы бруд. Таму яны ніколі не забруджваюцца. На аснове іх распрацавалі фарбы, якія маюць падобныя характарыстыкі. У славянскіх народаў іх звязваюць з русалкамі.
16. Вечназялёная пахучая расліна з блакітна-фіялетавымі або фіялетавымі кветкамі, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі.
19. Збудаванне ў выглядзе раду ступенек для пад’ёму і спуску.
20. Сукупнасць прадметаў, з’яў, рэчываў, аб’яднаных паміж сабой агульнай прыметай, уласцівасцю.
23. Унутранае перакананне, норма або правіла паводзін.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Аднаразовы рух глытальных мышцаў.
4. Рашэнне суда; прыгавор.
5. Росквіт гэтага танца прыйшоўся на сярэдзіну 20 стагоддзя, калі ў ЗША панавала Вялікая Дэпрэсія, а пасля свет уздрыганула Другая сусветная вайна.
7. Тое, што дадаецца ў страву для паляпшэння яе смаку, паху.
9. Доктар, спецыяліст па хваробах вачэй.
12. Здарэнне, выпадак.
14. У канцы 19 стагоддзя на Алясцы, ахопленай ліхарадкай, гэты караняплод быў даражэй за золата. Сярод шукальнікаў золата была распаўсюджаная цынга, а … цудоўна ратавала ад гэтай хваробы.
15. Непразрыстая фарба, расцёртая на вадзе з клеем і прымессю бяліл.
17. Салодкі моцны спіртны напітак.
18. Тое, што і кайданы.
19. Адтуліна на краі більярднага стала, у якую падае шар.
21. Сок гэтай ягады найчасцей замяняе ў кіно кроў. А яе спеласць правяраюць, кінуўшы на падлогу. Спелая ягада павінна падскочыць.
22. Дрэнны сваімі якасцямі, уласцівасцямі; варты асуджэння, ганьбы.
24. Перапынак у рабоце, у занятку для аднаўлення фізічных ці разумовых сіл.

## Адказы на крыжаванку з №12

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** Вузел. 4. Зубы. 7. Бараніна. 9. Тыраж. 11. Адценне. 12. Аздоба. 14. Алтай. 18. Морс. 19. Чэрап. 20. Абадок. 22. Ліда. 23. Апельсін. 25. Гогаль.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Вазон. 3. Лазня. 5. Мыла. 6. Вага. 8. Мадэрн. 9. Турбіна. 10. Мутант. 13. Венік. 14. Абедня. 15. Оптыка. 16. Лагер. 17. Адчай. 18. Морква. 21. Чарада. 24. Вёска.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Всё будет хороШОУ!**” 6+ (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
21 красавіка – у 12:00

**ПАРАД ПРЭМ’ЕР!**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ’ЕРА. “**Некалькі пралётаў уверх**” 16+ (трагікамедыя ў 2-х актах), *Радзівон Аўчыннікаў*
5 красавіка – у 19:00
28 красавіка – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Час Сэканд Хэнд**” 16+, *Святлана Алексіевіч* (дакументальная драма паводле аднайменнай кнігі лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры С.А.Алексіевіч)
13 красавіка – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Ну, вы даяце**” 18+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)
15 красавіка – у 17:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Прыгажуні**” 16+ (амерыканская камедыя), *Айван Менчэл*
20 красавіка – у 19:00

“**Банкет**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Ніл Сайман*
25 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 31 САКАВІКА – 5 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Дні не зусім спрыяльныя для адносін з другой палавінкай. Верагодна, яны стануць выніковымі. У вашых адносінах назапасіліся даўнія спрэчкі, рознагалоссі, якія выльюцца цяпер. Вам трэба будзе прыняць рашэнне аб далейшым шляху. Вас чакае альбо поўны разрыў адносінаў, альбо сур’ёзнае іх пераасэнсаванне.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам добра было б наведаць сваякоў ці пасядзець у кампаніі вельмі даўніх сяброў. Гэта будзе прыемнае баўленне часу, атрымаеце масу задавальнення. Чакаюць вас і сур’ёзныя перамены, перш за ўсё ва ўзаемаадносінах, але да чаго яны прывядуць, пакуль казаць рана.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы прыемна правядзяце час у коле сяброў, магчымыя вечарынкі ці міні-свята. Але больш часу вы будзеце паглынутыя справамі на працы. І гэта добра, бо не будзе часу на паходы па магазінах і на пустую трату грошай.



**РАК.** Вы будзеце зараджаныя патокам аптымізму і літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усе справы будуць спорыцца, а любыя пытанні вырашацца. Праўда, да сярэдзіны тыдня вы станеце залішне сур’ёзнай і ўладнай персонай, схільнай усюды аддаваць загады і нікога не слухаць. Але калі вы камандзір па жыцці, то камандуйце на здароўе, вам і карты ў рукі.



**ЛЕЎ.** Ад вашага праніклівага і мудрага погляду нічога не схаваецца і не ўтоіцца. Вы будзеце здольныя разабрацца ў любых справах і нават дапамагчы Ракам вывесці ашуканцаў на чыстую ваду. Выхадныя якраз падыходзяць для адплаты па заслугах усім, хто мае рацыю і хто вінаваты, таму падрыхтуйце загадзя пугай і пернік.



**ДЗЕВА.** Ад вас спатрэбіцца прыняцце ўзважанага рашэння, якаснага асэнсавання сітуацыі і толькі пасля гэтага праяўлення якіх-небудзь дзеянняў. Правільны выбар прынясе поспех як у справах фінансавых, так і ў асабістых.



**ШАЛІ.** Лавіце ўдачу за хвост. І ўсё ўспрымайце з лёгкасцю на душы і нічога не прымайце блізка да сэрца.



**СКАРПІЁН.** Паспрабуйце рабіць пабольш добрых спраў, бо верагодны працэс адплаты па заслугах. І калі ў перыяд свайго поспеху і шчасця вы нікога не забыліся і не пакрыўдзілі, то шчасця вам дадасца яшчэ больш.



**СТРАЛЕЦ.** Час сур’ёзных здзяйсненняў. Стаўце выразную мэту і ўпэўнена ідзіце да яе. Цяпер моцна абвострыцца ваша інтуіцыя, а следам за ёй і ўвогуле разуменне першапрычын усяго таго, што адбываецца.



**КАЗЯРОГ.** У вас можа з’явіцца цяга да фінансавых эксперыментаў – гэта можа быць як захапленнем латарэяй, так і жаданне заняцца новай справай. І калі латарэяй можна заняцца смела, то ад больш рызыкоўнага лепш устрымацца.



**ВАДАЛЕЙ.** Вы будзеце ў стане, што называецца “сам не свой”. Магчыма, пачнуцца нейкія перамены ў асабістым жыцці. У справах паспрабуйце быць акуратнымі, а ў выказваннях – стрыманыя.



**РЫБЫ.** Каб нічога не вывела вас з сябе, паспрабуйце добра адпачыць на выхадных. А яшчэ скарыстайцеся парадай умудроных доследам людзей, якія, на шчасце, ёсць у вашым акружэнні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | 3 | | | 2 | 5 |
| 6 | | | 7 | | | 9 | | |
| | | 9 | | | 6 | 8 | 4 | |
| | 5 | 4 | | | 2 | | | |
| | | 2 | 1 | | 9 | | | |
| | | | 3 | 6 | | | 7 | |
| | | 6 | 5 | 2 | | | 1 | |
| | 1 | 3 | | | 7 | | | |
| | | 8 | | | | | 5 | 9 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 | НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015 | тэлетыдзень


## ● НАДВОР'Е

### 31 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / +2 | | +1 / +5 | | +7 / +11 | | +9 / +6 | |
| | 737 | ↗ 4 | 736 | ← 5 | 724 | ↑ 7 | 721 | ↑ 4 |
| Вільня | -2 / +6 | | 0 / +10 | | +6 / +10 | | +6 / 0 | |
| | 742 | ↗ 4 | 741 | ↖ 4 | 729 | ↗ 4 | 730 | ↘ 9 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветру м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.47
Захад 19.46
Даўжыня дня 12.59

Усход 19.39
Захад 7.15
Поўня

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -2 / +8 | 746 | ↑ 5 |
| Гродна | +2 / +8 | 742 | ↗ 6 |
| Мінск | +1 / +5 | 736 | ← 5 |
| Магілёў | -1 / +3 | 744 | ↖ 4 |
| Брэст | +2 / +15 | 739 | ↖ 6 |
| Гомель | 0 / +7 | 746 | ↖ 3 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -9,8 °С у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +17,1 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,1 мм у 1979 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● У Ашмянах адбыўся чэмпіянат Еўропы па паўэрліфтынгу. На яго з'ехаліся прадстаўнікі 9 краін. Матэрыял са свята спорту і сілы – у наступным нумары.


ТЁПЛЫЕ ОКОННЫЕ ТЕХНОЛОГИИ. НЕМЕЦКИЙ ПРОФИЛЬ, НЕМЕЦКАЯ ФУРНИТУРА. ОКНА, ДВЕРИ, РАМЫ. НИЗКИЕ ЦЕНЫ, ВЫСОКОЕ КАЧЕСТВО! РАССРОЧКА. 8029 672-72-78, 8029 260-33-19

ОкнаХом. Гарантия качества. УНП 691403311. 8033 340-06-06, 8029 340-06-06. ОКНА и ДВЕРИ ПВХ. ДВЕРИ МЕЖКОМНАТНЫЕ и МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ. РАССРОЧКА до 20 месяцев! СПЕШИТЕ! ВЕСЕННИЕ СКИДКИ до 30%


## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Атрымала заробак і вырашыла пацешыць сябе морапрадуктамі. Купіла кількі ў тамаце.

***

Рэклама: Залі поўны бак бензіну і атрымай яшчэ пяць у падарунак.
Пытанне: Куды?

***

Калі я вучыўся ў школе, у мяне быў адзін рэпетытар – дзяга!

***

Ідзе мужык па парку і бачыць аб'яву: "За хадзьбу па газонах штраф 20 рублёў!" Мужык падыходзіць да міліцыянера і пытаецца:
– А чаму змянілі аб'яву, раней жа быў штраф 100 рублёў?
– Дык за 100 рублёў па газонах ніхто хадзіць не хоча!

***

Жонка глядзела на мужа вачыма дубальтоўкі.

***

– Сорамна мне, ой, як сорамна! – кажа Сёма жонцы.
– Што здарылася?
– Ды вось Абрам ужо трэці раз запрашае мяне на пахаванне сваёй жонкі, а я яго ні разу.

***

– Доктар, можна да вас?
– На што скардзіцеся?
– На 500 баксаў.
– Тады заходзьце.

***

Падобна, гэта была няўдачная ідэя – прыйсці на сумоўе ў футболцы з надпісам: "Ад работы коні дохнуць!".

***

Ідэальныя адносіны – гэта калі ты яму купляеш зубную шчотку, а ён табе – машыну.

***

– Маша, у нас ёсць грошы?
– Не.
– Як не? Я табе ўчора заробак аддаў.
– У мяне ёсць. А ў нас – не!

## Кава і "Рэгіянальная газета" з раніцы ў ложак – лепшы пачатак дня і любой справы

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал




Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

### Прыгадайце свой любімы анекдот або смешную гісторыю



**Алена Крэйніс, гаспадыня прытулку для жывёл, Валожын:**
– Наша маленькая дачка Арына слухала бабуль ля пад'езда, якія жаліліся, што не хапае грошай на лекі і прадукты. А пасля кажа ім: "А ў мамы з татам таксама грошыкаў няма. Толькі долары".



**Мікола Шабовіч, паэт, ураджэнец Мядзельшчыны:**
– Не люблю анекдотаў. Таму і не прыгадаю ніводнага.



**Бажэна Мацюк, філолаг, ураджэнка Вілейкі:**
– Што такое сінонім?
– Гэта тое слова, якое мы запісваем замест таго, правапіс якога не ведаем.



**Ірына Шаўцова, работнік культуры, Маладзечна:**
– Вы хто?
– Добрая фея!
– А чаму з сякерай?
– Ды настрой не вельмі.



**Юры Сянкевіч, настаўнік, Маладзечна:**
– На ўроку дзеці працягвалі сказ "Я мару...". Даходзіць чарга да нашага ўлюбёнца Максіма. І ён пачынае: "Я хмару...", а дзеці хорам у адказ: "Што? Я тучу?". Смяяліся разам з Максімам.



**Антаніна Шулякова, лагіст, Ашмяны:**
– Мама, мяне дзеці ў двары лохам дражняць!
– Ну, сынок, які ж ты лох? Пінжачок – у штонікі, штонікі – у шкарпэтачкі.



**Уладзімір Папковіч, паэт, перакладчык, ураджэнец Вілейшчыны:**
–"Дзень добры, Маня. Можна, я прыйду да Вас сёння? Паслухаем музыку..." – "Прыходзьце, Ваня..." – "Прабачце, Вы памыляецеся. Я – не Ваня". – "Дык і я ж не Маня".

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№13 (1196) 30.03.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 310. Падпісана ў друк у 9.00 29.03.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


© "Рэгіянальная газета", 2018


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.